НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 15 (804) 17 красавіка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў … 91. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Жыве Беларусь

Але што то за жыццё? Першы фільм пра сучасную Беларусь, зняты вялікай кінаіндустрыяй. Старонка 7.

**Палітыка**

## То разумны я, то ашуканы…

Зісер: «Канечне, людзі ў турмах, але гэта інтарэсы дваццаці чалавек». **Старонка 3.**



**Войска**

## Акім адлоўліваў крыўдзіцеляў па адным

20-гадовы Бянеш супрацiўляўся дзедаўшчыне. **Старонка 6.**



**Культура**

## Цырульнік, які перакладае фільмы

Міхал Кучук жыве ў Маскве. **Старонка 11.**



**Гісторыя**

## Як узніклі беларускія прозвішчы

Нашы прозвішчы старэйшыя за расійскія. **Старонка 13.**




## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Новы гадзіннік Юрыя Чыжа каштуе каля $260 000

Золата, сапфіравае шкло, **раменьчык з алігатара**.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На справаздачнай канферэнцыі Беларускай федэрацыі футбола бізнесмен Юрый Чыж прадэманстраваў новы дарагі гадзіннік.

Наколькі можна меркаваць — гэта Patek Philippe Celestial Grand Complication. Па розных ацэнках, такі гадзіннік каштуе ад $230 000 да $280 000. Некаторыя сайты, якія спецыялізуюцца на продажы элітных гадзіннікаў, пазначаюць цану ў $270 тысяч як рэкамендаваную вытворцам. Таксама на спецыялізаваных сайтах гаворыцца, што гэтая мадэль ужо знятая з вытворчасці.

Корпус такога гадзінніка зроблены з 18-каратнага жоўтага золата, дыяметр — 43,1 мм. Шкло сапфіравае, устойлівае да драпінаў. Раменьчык зроблены са скуры алігатара. Гадзіннік складаецца з 301 дэталі, 45 камянёў, 12 мастоў. Запас ходу — 2 сутак. Воданепранікальнасць такога гадзінніка складае 30 м. Гэта азначае, ён вытрымлівае ціск у 3 атмасферы. Але на практыцы яго нельга апускаць у ваду, максімум — можна памыць рукі пад кранам, не здымаючы гадзіннік.

На цыферблаце змешчана выява ўчастка неба, бачнага з Жэневы. А таксама зорная карта, фазы і арбіта Месяца.

Гэта другі дарагі гадзіннік Чыжа, які трапіў на вочы грамадскасці. У снежні 2011 ён прадэманстраваў плацінавы Circus Minute Repeater ад фірмы Ulysse Nardin, які быў зроблены ў колькасці ўсяго 30 экзэмпляраў. Тая мадэль каштавала больш за $400 тысяч.

Такіх статусных гадзіннікаў не паказваў на публіцы ніводзін з беларусаў. Зрэшты, і набыць такія мадэлі ў мінскіх салонах немагчыма.

Прашу ў салоне швейцарскіх гадзіннікаў самую дарагую мадэль — у падарунак дарагому сябру. У абсалютнай цішыні кансультант падводзіць мяне, адзінага пакупніка, да шклянога стэнда, паказвае на нейкі гадзіннік і вымаўляе завучаныя словы: «Omega SpeedMaster, тахометр, хранограф, хранометр, каляндар, светланакапляльнік... Вельмі добрая мадэль!» — «Ага, прыгожыя...» — «85 мільёнаў рублёў», - удакладняе кансультант. — «Часта такія купляюць?» — «Не хвалюйцеся, у Мінску з такім гадзіннікам ваш сябар будзе адзіным», — супакойваюць мяне. Але не пакідае ўражанне, што гэтая мадэль амаль за $8000 са стандартным для дарагога гадзінніка дызайнам і наборам функцый магла каштаваць як утрая танней, так і ўтрая даражэй.

Рушу ў фірмовую краму «Прамень». Тут пакупнікоў болей, але мадэлі з выкшталцоным дызайнам знайсці складаней. Таксама прашу паказаць найдаражэйшыя. Жаночая кварцавая мадэль у выглядзе бранзалета каштуе $240. «Бяруць часта?» — «А чаму б і не? Каштуюць нядорага, нашым людзям падабаецца. Дый замежнікі бяруць, бо выглядае арыгінальна». За самую дарагую мужчынскую просяць, $280. Столькі каштуе гадзіннік у воданепранікальным корпусе з антыкаразійнага матэрыялу. Ён якраз у тысячу разоў таннейшы за элітарны гадзіннік Чыжа.

**Сямён Печанко, Ягор Марціновіч**

**Юрый Чыж**

Выхадзец са шматдзетнай баптысцкай сям'і. Лічыцца самым багатым бізнесменам краіны, валодае кампаніямі імперыі «Трайпл», мае інтарэсы ў нафтавым сектары, нерухомасці, гандлі, грамадскім харчаванні, спорце і іншых галінах. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі».

Старэйшыя дзеці Юрыя Чыжа атрымалі замежную адукацыю, сын нават скончыў Оксфардскі ўніверсітэт.



**$7800**

**Omega SpeedMaster — адзін з самых дарагіх гадзіннікаў, якія можна купіць у мінскіх крамах.**



**Самы дарагія гадзіннікі «Промня»**

**жаночы $240**

**мужчынскія $280**



## Дзякуй за падпіску на «Нашу Ніву»

Наталлі Р. з Гродна.
А.П. з Брэста.
Аляксандру П. з Полацкага раёна.
В.В. са Стаўбцоўскага раёна.
А.Б., В.Г. са Мінскага раёна.
Сяргею Д., Сяргею Ц. з Докшыцкага раёна.
Васілю К., Аляксандру З., Віктару А. з Гомеля.
Н.Х. з Шчучынскага раёна.
Івану Р. з Іўеўскага раёна.
Міхаілу Т., Н.Ю., Алене С., Андрэю С., Андрэю Г., Але К., Паўлу С., Вользе П., Валянціне Ч., Ніне С., Алене М., Тамары К., Вользе А., Вользе Ж., Вользе П., Аляксандру Ф., Уладзіміру М., Дзмітрыю В., Канстанціну Ш., Сяргею Л., Сяргею Х., Эльвіры Я., А.Р., Івану Б., Наталлі Ш., Івану С., І.Г., Івану К., Васілю К., Антону Г., Алегу Г., Алегу К., Рыце Н. з Мінска.

## Апытанне на nn.by

**Якая песня павінна быць гімнам Беларусі?**

| | Галасы | % |
|---|---|---|
| «Магутны Божа» | 920 | 25% |
| «Жыве Беларусь» | 692 | 19% |
| «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» | 611 | 16% |
| «Пагоня» | 558 | 15% |
| «Развітанне з Радзімай» | 299 | 8% |
| «Радзіма мая дарагая» | 254 | 7% |
| «Полацкі сшытак» | 174 | 5% |
| «Мы — беларусы, мірныя людзі» | 148 | 4% |
| «Не загаснуць зоркі ў небе» | 51 | 1% |



## Сцісла

**Лукашэнка параўнаў энергетыкаў з мафіяй і бандай**

Павышэнне тарыфаў на цепла- і электраэнергію магчыма толькі па меры росту даходаў насельніцтва, сказаў кіраўнік краіны. «Энергетыкі стварылі ўласную дзяржаву ў дзяржаве, нейкую сваю незалежную арганізацыю з элементамі мафіі і банды».

**У Мінск пачынае лятаць іспанскі лаўкост Vueling**

Мінімальны тарыф складае 150 еўра, але недарагія білеты ўжо раскупленыя на ўсе дні, апроч 2 чэрвеня. Для параўнання, з «Белавіяй» адлятаць з Мінска ў Барселону можна два разы на тыдзень ад 270 еўра ў адзін бок.

**Лідар расійскай апазіцыі Навальны за год зарабіў $300 тысяч**

Адвакацкая дзейнасць, а таксама каштоўныя паперы прынеслі Навальнаму каля $300 тысяч. Прыблізна столькі ж апазіцыянер атрымаў на рахунак антыкарупцыйнай кампаніі «Роспіл».

**79-гадовая бабуля ледзь не загінула ў Мінску ад тэлефоннай зарадкі**

Пажар на Валгаградскай меркавана адбыўся праз кароткае замыканне электраправодкі зараднай прылады для мабільнага тэлефона. Бабуля ўчадзела і была дастаўленая ў бальніцу.

**Справа МММ у Беларусі завершаная**

У якасці абвінавачаных прыцягнуты 13 чалавек. Іх дзеянні падпадаюць пад склад злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 233 КК (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць, спалучаная з атрыманнем прыбытку ў асабліва буйным памеры).

**Цыплакоў — новы спартыўны дырэктар ХК «Дынама»**

У хакеі пацыху мяняецца ўлада. Замест звольненага спартыўнага дырэктара Ігара Матушкіна прыйшоў Уладзімір Цыплакоў. Абодва яны гулялі ў зборнай у свой час. А вось замену гендырэктару Торбіну пакуль не знайшлі.

**ЯМ**

## Самае чытанае на nn.by за 10—16 красавіка

1. Бабёр загрыз жыхара Брэста, які хацеў з ім сфатаграфавацца
2. Кукабака: Пазняк і Саннікаў — ворагі беларускага народа
3. У дзённым эфіры БелМузТВ у суботу некалькі хвілін паказвалі жорсткае порна
4. Belarusian, motherfucker! Do you speak it?!
5. Актывісткі Femen раздзеліся перад Пуціным + відэа і фота
6. «Увесь беларускі народ у бамжаватым выглядзе» — тэкст экспертызы экстрэмісцкіх здымкаў «Прэс-фота Беларусі»
7. З'явіўся саўндтрэк да фільма «Жыве Беларусь»: Вольскі геніяльны, як заўжды
8. Малады салдат трапіў пад следства за супрацьў «дзядам»
9. Адкрываецца «Арэна-Сіці» — самы вялікі гіпермаркет Юрыя Чыжа
10. Паміж Мінскам і Вільняй будзе хадзіць двухпавярховы цягнік

# Пошукі адказаў на пытанні: то разумны я, то ашуканы

Будзе **новая лібералізацыя**?

Лукашэнка зноў з Еўропай сябраваць сабраўся? Еўропа зноў з Лукашэнкам сябраваць сабралася? (Як каму больш падабаецца.) Санкцыі адменяць ці пакінуць? Калі выйдуць палітвязні? Гэтыя пытанні зноў сталі актуальнымі апошнія некалькі месяцаў.

Здавалася б, асаблівых прыкмет «палітычнай вясны» няма, але нейкія зрухі пачаліся. Калі прайсціся па канкрэтных кроках уладаў, то іх няшмат: спыненне крымінальнай справы супраць Андрэя Пачобута, адмова ад крымінальнага пераследу часопіса Arche. Трэцім пунктам тут можна ўпісаць вяртанне ў Мінск шведскага пасольства. Але нікому невядома, на чыіх умовах адбываецца гэтае вяртанне.

«Чамусьці ў мяне складаецца адчуванне, што доўгая зіма прывяла да ўзмацнення вясновага абвастрэння ў Беларусі. Калі чытаеш СМІ і Фэйсбук, то ў галаву, на жаль, прыходзіць думка, што гэтая зіма хутка яшчэ не скончыцца... Я разумею ваша нецярпенне і стомленасць, але — добрыя людзі, мабыць, варта трохі падумаць перад тым, як вінаваціць усё і усіх, акрамя вас саміх?» — не вытрымаў былы пасол Швецыі Стэфан Эрыксан.

З іншага боку, застаюцца ў турмах адзінаццаць палітвязняў. У Гродзенскім універсітэце адбываюцца звальненні навукоўцаў па палітычных матывах. На мікашэвіцкім «Граніце» помсцяць тым рабочым, хто не пабаяўся стварыць рэальны прафсаюз. Адна рука дае абяцанні, другая — забірае правы і свабоды.

Падобна, што лінія на новае наладжванне адносін зноў стала мэйнстрымавай у Еўрасаюзе. У беларускай апазіцыі адны (Рух «За Свабоду», «Гавары праўду», БНФ) вітаюць такую палітыку, іншыя («Хартыя-97», БХД) — не вераць у магчымасць дыялогу. АГП дзесьці пасярэдзіне.

«Беларусь зліваюць хто за што — хто за пернікі, хто за любоў Лукі, хто за тое, і другое. Стужынская—Мілінкевіч—Янукевіч, падобна, перамаглі на гэтым адрэзку. Але толькі таму, што прайгралі тыя, хто мае альтэрнатыўны пункт гледжання», — напісаў рэжысёр «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін.

Павялічылася колькасць кантактаў сярод чынавенства беларускага і еўрапейскага. У Віцебску сустрэліся кіраўнікі МЗС Беларусі і Латвіі Уладзімір Макей і Эдгарс Рынкевічс.

Латвійскі міністр сказаў, што ўсе спрэчныя пытанні паміж Мінскам і Брусэлем у адзін момант не здымеш. Макей быў больш аптымістычны: «Адносіны з Еўрасаюзам не знаходзяцца ў тупіку».

Урэшце пра зацікаўленасць у паляпшэнні адносін загаварыў і сам Лукашэнка. Прымаючы даверчыя граматы пасла Літвы Эвалдаса Ігнатавічуса, ён сказаў: «Разлічваем, што літоўскае старшынства ў ЕС у другой палове 2013 стане перыядам актыўнай нармалізацыі беларуска-еўрапейскіх адносін».

Польскі аналітык Каміль Клысінскі лічыць, што ніякага істотнага паляпшэння адносін не будзе. Ён маркуе, што ЕС проста прамацвае сітуацыю.

Еўрапейцы чакаюць, каб Мінск перастаў ставіцца да Еўропы як да ворага, чакаюць новых крокаў ад Мінска. Ці зробяць іх улады — вялікае пытанне. Асабліва, калі Расія згодзіцца даць новы крэдыт.

**Зміцер Панкавец**

# Юрый Зісер: «Канечне, людзі застаюцца ў турмах, але гэта інтарэсы дваццаці чалавек»

Уласнік найбольшага інтэрнэт-партала Tut.by Юрый Зісер разам з палітолагам Юрыем Чавусавым і сацыёлагам Жаннай Грыннюк узяў удзел у дыскусіі па Беларусі ў Фундацыі Карнэгі (Вашынгтон, ЗША). Зісер і Чавусаў падчас выступленняў і адказаў на пытанні выказаліся супраць эканамічных санкцый у дачыненні Беларусі.

**«Наша Ніва»: Апошнім часам Вы часта бераце ўдзел у канферэнцыях, як у Еўропе, так і ў Штатах. На Ваш погляд, ці мяняецца палітыка заходніх краін у дачыненні Беларусі?**

**Юрый Зісер:** Безумоўна. Галоўным чынам таму, што стала больш інфармацыі пра Беларусь. Людзі чытаюць розныя сайты, розныя пазіцыі. Аналізуюць гэта. У людзей з'яўляецца ўсеагульнае разуменне сітуацыі. У Штатах, што мяне здзівіла, я не пачуў ні ад каго, што санкцыі карысныя, што іх трэба працягваць. Хутчэй, чуў адваротнае, што санкцыі не працуюць і іх трэба адмяніць. Тым не менш, яны чакаюць першы крок ад беларускіх уладаў. Амерыканцы самі на гэты крок першымі наўрад ці пойдуць.

**«НН»: Вы заўсёды выступалі супраць санкцый у дачыненні ўлады, чаму?**

**ЮЗ:** Папраўлю. Я выступаю супраць эканамічных санкцый. Яны неэфектыўныя. Не бізнэсмэны фінансуюць Лукашэнку, а Пуцін. Няма ніводнага сведчання, што гэта багатыя людзі даюць грошы ўладзе. Дый няма ў іх такіх грошай. Санкцыі супраць бізнэсмэнаў — гэта найперш беззаконне. У Вашынгтоне я яшчэ звярнуў увагу, што Штаты ўводзілі санкцыі толькі супраць дзяржаўных прадпрыемстваў, а вось Еўрасаюз увёў і супраць бізнэсмэнаў. Эканаміст Павел Данэйка нават выказаў версію, што гэта прошукі расійскага бізнэсу. Гэта крыху канспіралагічна. Але мне здаецца, што ў санкцыях зацікаўленыя толькі тыя, хто хоча спыніць грамадскія працэсы ў краіне, хто зацікаўлены ў сёньняшнім рэжыме.

**«НН»: Каго Вы маеце на ўвазе?**

**ЮЗ:** Сёння з усіх больш-менш вядомых палітычных сілаў толькі «Хартыя» і Рымашэўскі выступаюць за санкцыі. Калі год назад у сваім блогу я асцярожна выказаў меркаванне, што санкцыі шкодзяць, то было шмат крытыкі. За гэты час меркаванні змяніліся. Адбыўся свядомасны зрух. Мы не павінны быць зацікаўлены ў асабістай помсце за падзеі 19 снежня. Канечне, людзі застаюцца ў турмах, але гэта інтарэсы, прабачце, дваццаці чалавек, а трэба думаць пра інтарэсы дзевяці мільёнаў. Хацеў бы таксама падкрэсліць розніцу таго, што гавораць эмігранты і тыя, хто застаецца тут.

**«НН»: На Ваш погляд, ці магчыма лібералізацыя, падобная той, што была ў 2008—2010 гадах?**

**ЮЗ:** Можа быць. Не ведаю, ці надоўга. Усё будзе залежыць ад таго, наколькі доўга наша дзяржава будзе здольная гуляць па агульнапрынятых правілах.

**«НН»: Ці маеце Вы прагноз адносна таго, калі выйдуць палітвязні?**

**ЮЗ:** Цяжка сказаць. Выпусціць усіх адразу — гэта не ў духу нашай дзяржавы. Хутчэй будзе праца: «2 крокі наперад — 1 назад». Двух выпусцяць — аднаго пасадзяць. Але сітуацыя павінна палепшаць. Сёння ўлады не выпускаюць палітвязняў проста з прынцыпу. А трэба меней прынцыпаў, а болей — здаровага сэнсу.

**Гутарыў ЗП**




**Юрый Зісер**

нарадзіўся ў 1960 у Львове (Украіна). Скончыў Паўночна-Заходні політэхнічны інстытут, (Санкт-Пецярбург) па спецыяльнасці «Электроннавылічальныя машыны». Прафесійны праграміст, сістэмны аналітык. Працаваў на шэрагу прамысловых прадпрыемстваў і ў навуцы. Ад 1992 — генеральны дырэктар і ўладальнік УП «Надзейныя праграмы» (гандлёвая марка — Tut.by).

# Мікалай Халезін: Што ўлады зрабілі добрага, каб з імі пачынаць дыялог?

За санкцыі выступае драматург, рэжысёр Мікалай Халезін, блізкі да «Хартыі-97».

**«Наша Ніва»: Ці бачыце Вы апошнія месяцы змены ў палітыцы еўрапейскіх дзяржаў і ЗША ў дачыненні да беларускай ўлады?**

**Мікалай Халезін:** Змены падыходаў, безумоўна, ёсць. З боку ЗША няма — іх пазіцыя застаецца нязменнай. Гэта заканамерны працэс. Лукашэнка ў чарговы раз паспрабуе разыграць бачнасць лібералізацыі дзеля атрымання новых крэдытных магчымасцяў.

**«НН»: Чаму Вы за санкцыі?**

**МХ:** Прадыктавана гэтая пазіцыя элементарным прагматызмам. Калі ўсе віды дыялогу ўжо былі апрабаваныя і ні да чаго не прывялі, варта паспрабаваць жорсткія меры, якіх баіцца любы аўтарытарны рэжым.

**«НН»: Ці можа дапамагчы палітвязням дыялог? Калі палітвязні выйдуць на волю?**

**МХ:** Дыялогам можна толькі нашкодзіць палітвязням. Любое паслабленне пазіцый і пачатак перамоваў прыводзіць да таго, што дзейнасць уладаў легітымізуецца. Што беларускія ўлады зрабілі добрага, каб з імі пачынаць размову? Яны беспадстаўна ўтрымліваюць людзей у турмах, саджаюць палітычных актывістаў, грамяць праваабарончыя арганізацыі... На фоне перамоваў Макея з ЕС ціск на палітвязняў узмоцніцца, паколькі ўлады, «бласлаўлёныя» пазіцыяй Еўрасаюза, будуць выбіваць прызнанне віны яшчэ больш актыўна.

**«НН»: Мілінкевіч і Пазняк кажуць, што эканамічныя санкцыі ідуць толькі на карысць Расіі.**

**МХ:** Не вельмі разумею такую рыторыку. Расія ўплывае на працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, але яна далёка не ўсёмагутная. Яна не змагла паўплываць на змену ўлады ў Грузіі, Сербіі, Украіне, Лівіі, не зможа выратаваць свайго партнёра Асада. Страшылку пра Расею Мілінкевіч выкарыстоўвае, спрабуючы стварыць «дымавую заслону» сваімі гульнямі з беларускімі ўладамі, але да рэальнай палітыкі гэта не мае ніякага дачынення.

**Гутарыў ЗП**



**Мікалай Халезін**

нарадзіўся ў 1964 у Мінску. Заснавальнік беларускага «Свабоднага тэатра». Мастак, сцэнарыст, драматург. Пасля выбараў 2010 з'ехаў з краіны. Цяпер жыве ў Лондане.

# Венесуэла: як хістаецца сістэма без лідара

Пераемнік Чавэса Нікалас Мадура набраў 50,7% галасоў. Апазіцыя ўвогуле сцвярджае: перамог Энрыке Капрылес. І патрабуе перападліку галасоў на вуліцах. Лічба Мадура, канечне, непрыемная для яго. Чавэс ніколі не набіраў так мала, а выбары ж яшчэ прайшлі на эмоцыях ад заўчаснай смерці былога прэзідэнта, што спрыяла афіцыйнаму пераемніку.



Энрыке Капрылес.

### Як лічаць галасы ў Венесуэле

Усё зусім не так, як у Беларусі. Каб выключыць фальсіфікацыі, людзі адначасова галасуюць і электронна, і бюлетэнямі. Пры электронным галасаванні выбарцаў ідэнтыфікуюць па адбітках пальцаў. Адзін адбітак — адзін голас. Галасы лічыць камп'ютар. Паралельна людзям выдаюць папяровы бюлетэнь, які яны апускаюць у скрыню. Такім чынам, у выпадку спрэчак, па электронным галасаванні галасы можна пералічыць. Каб чалавек не мог прагаласаваць двойчы, кожнаму пры галасаванні пазначаюць палец незмывальнай фарбай.

Капрылес і настойвае на перападліку галасоў са скрыняў. Ён сцвярджае, што перамог з адрывам у 300 тысяч галасоў. Мадура на перападлік не пагадзіўся, расказвае кандыдат гістарычных навук Яўген Красулін, спецыяліст па Лацінскай Амерыцы.

Ужо ў першы вечар пасля выбараў у сутычках загінулі сямёра.

### Тэлебачанне ў Венесуэле

Ёсць афіцыйнае, але ёсць і апазіцыйнае, і незалежнае. Апазіцыйны канал перад выбарамі трансляваў «Пяць крокаў для кантролю за сваім голасам». У агітацыйных роліках Капрылеса асноўны лозунг быў: «Не бойцеся».

Атмасфера ў краіне перад апошнімі выбарамі, як і на папярэдніх, была не зусім здаровая. Дзяржаўныя каналы малявалі кандыдата ад апазіцыі яўрэем і гомасэксуалістам, агентам ЗША і сабатажнікам. Карацей, джэнтльменскі набор.

### Ноу-хау Чавэса — PDVSA

Сваім пераабраннем Нікалас Мадура абавязаны PDVSA — гэта абрэвіятура ад Petroleos de Venezuela, S.A., нацыянальнай нафтавай кампаніі.

Нафта дае Каракасу 95% экспарту. Гадавы даход кампаніі складае каля 125 млрд даляраў — гэта ў два разы больш за ВУП Беларусі! Працуюць у PDVSA каля 100 тысяч чалавек.

Што зрабіў Чавэс? Ён нацыяналізаваў кампанію, а пасля запоўніў сваімі людзьмі — як у мэнэджмэнце, так і на рабочых пасадах. Ранейшыя работнікі спрабавалі супраціўляцца, правялі доўгую забастоўку ў 2002, на яе ўрад адказаў лакаўтам.

PDVSA — гэта дзяржава ў дзяржаве. Яе работнікі выдатна зарабляюць, маюць усе прывілеі. Яны зацікаўленыя ў статус-кво, у сістэме. І няма ў чавістаў надзейнейшае апоры. Менавіта PDVSA фінансавала ўсе сацыяльныя праекты Чавэса, у тым ліку так званыя «баліварыянскія місіі».

Але і ў кампаніі разумеюць, што падзенне цэнаў на нафту да ўзроўню, які быў у 80-я, можа прывесці краіну да краху.

Венесуэльская мадэль, венесуэльскі цуд грунтуюцца на банальнай кан'юнктуры нафтавых цэнаў. Акрамя нафты, краіна ранейшаму нічога не мае. Сельскую гаспадарку дабіла праведзеная Чавэсам нацыяналізацыя, расказвае гісторык Красулін.

**Цікава**

Жонка новага прэзідэнта Венесуэлы старэйшая за яго на 9 гадоў. Яна займае пасаду генпракурора, а да таго была спікерам парламента.

### Сацыялізм — ён і ў Амерыцы сацыялізм

Мадура стаіць перад складанай задачай. Сістэма, якую збудаваў Чавэс, эканамічна неэфектыўная. «Баліварыянскі сацыялізм XXI стагоддзя», як называў яго Камандантэ, ці як і кожны сацыялізм, арыентаваны не на зараблянне грошай, а на іх размеркаванне. Пакуль цэны на нафту былі касмічныя, дзяліць было што. Але ўжо цяпер у казачна багатай Венесуэле ўзнік дэфіцыт... кукурузнай мукі — а яна для венесуэльцаў мае такое ж значэнне, як для беларусаў бульба. Здараюцца перабоі з электрычнасцю, а нацыянальную валюту разава дэвальвалі на 38%, расказвае Яўген Красулін.

На думку Красуліна, у лагеры пераемнікаў Чавэса выспявае раскол. Калі Мадура застанецца такім жа непераканаўчым, як у першы месяц свайго кіравання, вайскоўцы могуць вылучыць у якасці новага лідара цяперашняга спікера парламента Дыясдада Кабэльё. Персаналісцкія рэжымы часта рассыпаюцца, варта знікнуць лідару.

**Мікола Бугай**

**Фотафакт**

## Някляева пераабралі кіраўніком «Гавары праўду»



Дзейнасць грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» скіравана на перамогу ў прэзідэнцкіх выбарах-2015, сказаў Някляеў пасля ўстаноўчага сходу арганізацыі. Аднак кандыдата пакуль не вылучалі.

## Гэнік Лойка дабіўся свайго

Бацькі дамагліся **вяртання мовы**: са статута гімназіі №4 прымуць пункт аб навучанні па-расейску.

«Я і яшчэ 30 бацькоў накіравалі калектыўны зварот ва ўпраўленне адукацыі Фрунзенскага раёна, у якім прасілі адказаць на два пытанні: «Кім былі зроблены змены ў статуце?» і «Якім чынам дадзеныя хібы будуць выпраўленыя?» У лісце з гаворыцца, што да 15 красавіка дырэктар гімназіі мусіць падаць у камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама хадайніцтва аб унясенні зменаў у статут», — паведаміў «НН» Гэнік Лойка.

Згодна з афіцыйнай пастановай, у статуце гімназіі № 4 павінна быць пазначана, што асноўнай мовай адукацыі і выхавання з'яўляецца беларуская.

«Гэта, зразумела, перамога і крок наперад, але трэба змагацца далей», — кажа Лойка.

Нагадаем, што Гэнік Лойка цягам некалькіх гадоў уздымае праблему мовы навучання ў гімназіі № 4. Паводле яго словаў, беларускамоўнай гімназія з'яўляецца фармальна, а настаўнікі і адміністрацыя шырока ўжываюць расійскую мову як падчас урокаў, так і па-за навучальным працэсам.

21 лютага 2013 года з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы Гэнік Лойка зладзіў адзіночны пікет супраць русіфікацыі гімназіі № 4. Пасля пікета мастака затрымалі і асудзілі на 5 сутак арышту.

**Кірыла Хілько**

## Крымінальную справу супраць Цесака спынілі

У Следчым камітэце «Нашай Ніве» паведамілі, што крымінальная справа ў дачыненні расійскага неанацыста Максіма Марцінкевіча і двух ягоных сяброў-беларусаў спыненая.

Справа была заведзеная па артыкуле 339 КК частка 3 «Хуліганства з прымяненнем зброі». Тым самым, па якім судзілі «маладафронтаўцаў» Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава.

15 лютага ў Мінску каля клінікі «Новы зрок» адбылася сутычка паміж Цесаком з сябрамі і групай антыфашыстаў. Апошнія аблілі Цесака мачой. У адказ былі прыменены траўматычны пісталет «Удар» і нажы.

Цясак і двое беларусаў былі арыштаваныя і правялі 10 сутак у ІЧУ. Пасля гэтага іх вызвалілі пад абавязкі з'яўляцца па патрабаванні следчага.

Адзін з антыфашыстаў пацярпеў у бойцы. Нават знаходзіўся некалькі дзён у рэанімацыі.

«Пацярпелыя ў прыватным парадку могуць звяртацца зноў аб завядзенні крымінальнай справы, — сказаў прадстаўнік Следчага камітэта Аляксандр Герасімаў. — Але хачу сказаць, што падчас следства ніякіх прэтэнзій яны не выказвалі».

**Зміцер Панкавец**

# Пяць фактаў пра «Арэну-Сіці» Юрыя Чыжа

**Гіганцкі гандлёвы цэнтр** адкрыўся за 500 метраў ад Драздоў.

На 20 красавіка ў Мінску запланаванае ўрачыстае адкрыццё гандлёвага цэнтра «Арэна-Сіці», які знаходзіцца на «прэзідэнцкай» трасе. Аднак у тэставым рэжыме крама працуе ўжо тыдзень. «Наша Ніва» пабывала ў будынку, які можна лічыць адным з самых сучасных гандлёвых цэнтраў краіны.

**Трэцяе месца па велічыні**

Згодна з інфармацыяй Мінгарвыканкама, агульная плошча «Арэны-Сіці» складае 88 тысяч квадратных метраў, а гандлёвая — 13 100 квадратных метраў. Ці многа гэта? Для параўнання, астатнія тры «Прасторы» Юрыя Чыжа, якія ўжо адкрытыя ў Мінску, па гандлёвай плошчы ўдвая меншыя.

Большыя па памеры толькі камунальная «Сталіца» і «Замак» Паўла Тапузідзіса. Неўзабаве «Арэну-Сіці» абгоніць яшчэ гандлёвы комплекс над аўтавакзалам «Цэнтральны».



Уздоўж будынка праходзіць рававовая дарожка. Канфлікты з пакупнікамі непазбежныя.

### Крама пад бокам гаспадара

«Арэна-Сіці» з гіпермаркетам «Прастор» унутры знаходзіцца насупраць хакейнай «Мінск-Арэны», у крокавай даступнасці ад катэджа свайго гаспадара, мільянера Юрыя Чыжа. Тут, у Драздах, жывуць і іншыя асобы, набліжаныя да Лукашэнкі.



Сімвал «Арэны-Сіці» — два дрэвы, якія растуць насуперак законам фізікі.

Гіпермаркет закрыў ад праспекта элітныя дамы па вуліцы Піянерскай. Там, дзе раней былі ўтульныя агароджаныя дворыкі, цяпер будзе адбывацца разгрузка грузавікоў.

### Першы фуд-корт

У абсалютнай большасці замежных гандлёвых цэнтраў можна знайсці свае фуд-корты. Так называюць некалькі рэстаранаў, якія знаходзяцца побач і маюць агульныя столікі для кліентаў. Можна, напрыклад, узяць піцу ў адной кавярні, а дэсерт у суседнім.

У «Арэне-Сіці» будзе першы ў краіне фуд-корт. Праўда, вядомых замежных брэндаў там не будзе, хоць па горадзе хадзілі чуткі пра адкрыццё міні-Макдональдса. Наведвальнікі пачастуюцца ў блінной «БлінОк», кафэ «Смятана», сушы-бары «Манга»... Адначасова там змогуць пад'есці амаль 500 чалавек.

А непадалёку ад фуд-корта адкрыецца яшчэ піцэрыя з сеткі «Піца-Тэмпа».

### Яшчэ адна крама Apple

Большую частку будынка зойме гіпермаркет «Прастор», аднак усяго на 18 касаў. Раней колерамі сеткі былі сіні і чырвоны, але цяпер яны замененыя на жоўтачорныя. У большасці астатніх крамаў поўнай ходай ідуць аздабляльныя працы.

У «Арэне-Сіці» запрацуюць прадстаўніцтва дома мэблі «Свіслач», супермаркет тэхнікі «Электрасіла», філія «Белаграпрамбанка»... З незвычайных крамаў чакаецца адкрыццё другога фірмовага салона культавай амерыканскай кампаніі Apple — другога ў краіне, а таксама вялікай крамы з дзіцячымі канструктарамі «Лега».

### Нябачны вадаспад

Звонку гандлёвы цэнтр выглядае не надта прэзентабельна — бардовы будынак з шэрымі прыбудовамі па баках. Стварэннем праекта займаліся італьянскія архітэктары. Яны і прыдумалі некалькі «разынак» дызайну. Вонкава гэта напаўпразрыстае тэлевізійнае пано памерам 14х12 м на фасадзе гандлёвага цэнтра. На ім можна трансляваць любыя відэаролікі. А ўнутры будынка радуюць вока два высачэзныя дрэвы і сяміметровы вадаспад з танюткімі струменямі. Ваду можна заўважыць ,толькі калі глядзець збоку.

### Электронная заблытаная паркоўка

Паркінг можа змясціць 1400 аўтамабіляў. Каб трапіць у яго, трэба павярнуць з праспекта Пераможцаў адразу за тэлевізійным пано.

Стаянку могуць аблюбаваць гледачы з «Мінск-Арэны». Праекціроўшчыкі ўкаранілі ў паркоўку электронную сістэму. Чырвоныя і зялёныя ліхтарыкі паказваюць, якія месцы занятыя, а якія вольныя. На спецыяльных табло паказваецца колькасць вольных месцаў. Але месца на кожную машыну цесненькае, таму пры неакуратнай паркоўцы сусед сваё аўто ўжо не ўціснe. Дый выезду давядзецца шукаць доўга. Уцямных падказак пад зямлёй не знойдзеш.

Ягор Марціновіч

# Хто варыць беларускае піва?

Замежныя канцэрны паказваюць **прыклад паспяховай прыватызацыі**.

Два гатункі піва «Аліварыя» атрымалі залатыя медалі ў Бельгіі, дзе міжнародны інстытут Monde Selection вызначае пераможцаў ужо на працягу 50 гадоў. Айчыннае піва хваляць дэгустатары з усяго свету, аднак беларусы ўсё адно глядзяць на яго з недаверам. Дый п'юць меней — летась кожны беларус выпіў па 50,5 літра ў параўнанні з пазалеташнімі 53,5 літра.

Аднак піўныя заводы маюць пры гэтым добры прыбытак. Рынак падзелены паміж чатырма асноўнымі кампаніямі — рэшту складаюць імпарт і дробныя мясцовыя вытворцы. Прычым піваварні, прыватызаваныя замежнікамі, нарошчваюць сваю долю, а «дзяржаўнікі» страчваюць. Гэта адна з нямногіх галінаў беларускай эканомікі, куды былі свабодна дапушчаныя сусветна вядомыя карпарацыі. Іх прыход у Беларусь стаў інвестыцыйным поспехам.



Паводле падлікаў кансалтынгавай кампаніі EnterInvest, лідарам на беларускім рынку стаў канцэрн «Хайнэкен». Нашчадкі нідэрландскай сям'і Хайнэкенаў дагэтуль маюць кантрольны пакет акцый піваварняў, раскіданых па ўсім свеце. Аднаму з самых паспяховых інвестараў належыць 22% беларускага рынку, але доля пастаянна расце. Замежнікі мадэрнізавалі заводы ў Бабруйску і Рэчыцы, таму прадукцыя цяпер адпавядае сусветнаму ўзроўню. Некаторыя брэнды, як, напрыклад, «Баброў» і «Рэчыцкае», засталіся ранейшымі.

Дзяржаўная «Крыніца» яшчэ пяць гадоў таму мела трэціну рынку, але цяпер у руках засталося толькі 19,6%. Фінансавы стан кампаніі, якая каштуе каля $60 мільёнаў, далёкі ад стабільнага. Летась яна была стратнай. Таму дзяржава шукае інвестара, адным з найбольш верагодных кандыдатаў называецца мільянер Юрый Чыж. Ранейшыя пошукі поспехам не скончаліся — дастаткова ўзгадаць прыклад «Балтыкі», якая ледзь не набыла «Крыніцу» ў пачатку 2000-х.

Дарэчы, уласнікам гэтай расійскай кампаніі з'яўляецца дацкі канцэрн Carlsberg — той самы, што валодае мінскай «Аліварыяй». Найстарэйшы бровар краіны мае 16,5% рынку, аднак працягвае набіраць абароты.

Нарэшце, «Лідскае піва» (13,5% рынку) належыць фінскай кампаніі Olvi. Меншыя аб'ёмы продажаў дазваляюць рэгіянальнаму вытворцу мець найлепшую рэнтабельнасць сярод канкурэнтаў. Дый сярод чытачоў «Нашай Нівы» менавіта «Лідскае» мае найбольш прыхільнікаў.

ЯМ

**Якое піва з беларускіх найлепшае?*, %**

| | |
|---|---|
| «Лідскае» | 27 |
| Алкаголь шкодзіць здароўю! | 21 |
| «Аліварыя» | 20 |
| Усе абы-што | 17 |
| «Хайнэкен» | 6 |
| «Рэчыцкае» | 5 |
| «Брэсцкае» | 2 |
| «Крыніца» | 2 |

*апытанне на сайце nn.by. Прагаласавалі 2177 чалавек.

## Сцісла

**Уласнікі мінскіх двухпакаёвак пабагацелі на $7500**

Цэны на сталічную нерухомасць працягваюць імкліва расці. Сярэдняя цана прапановы квадратнага метра дасягнула $1537. Яшчэ ў пачатку года ён каштаваў на $150 танней. У выніку сярэдняя двухпакаёўка за гэты час падаражэла на $7500.

**Стаўка рэфінансавання паменшала да 27%**

Да 17 красавіка яна складала 28,5%. У выніку паменшаюць стаўкі па дэпазітах і крэдытах. Нацбанк рашыўся на гэты крок нягледзячы на папярэджанні Міжнароднага валютнага фонду пра небяспеку яшчэ большага росту цэнаў.

**Самы высокі заробак у Швецыі, самы нізкі — у Балгарыі**

Самы нізкі гадзінны заробак у Еўрасаюзе па выніках 2012 зафіксаваны ў Балгарыі (3,7 еўра) і Румыніі (4,4 еўра). Больш за ўсё атрымлівалі работнікі ў Швецыі (39 еўра) і Даніі (38,1 еўра). Для параўнання, у Беларусі гэты паказчык складаў усяго 2,07 еўра.

ЯМ

# Акім адлоўліваў крыўдзіцеляў па адным

20-гадовы Акім Бянеш **супрацiўляўся дзедаўшчыне**. І сам трапіў пад суд.

Хлопец не стаў прыстасоўвацца, а аказаў супраціў і... цяпер знаходзіцца пад следствам за фінгал, які паставіў саслужбоўцу-«дзеду». «НН» пагутарыла з бацькам салдата Алегам Беняшом, які разам з сынам праходзіць усе колы следства.

### Парушэнне статута

Акім праходзіць па артыкуле 443 ч. 1 КК «Парушэнне статутных правіл узаемаадносін паміж асобамі, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачага, пры адсутнасці адносін падпарадкаванасці». Максімальна прадугледжанае пакаранне — 6 месяцаў арышту ці 4 гады пазбаўлення свабоды. Суд пачнецца 22 красавіка.

«Справа на сына была заведзена 15 лістапада. Але самі падзеі адбыліся значна раней, — расказвае Алег Бянеш. — У мяне ёсць дакументы, дзе пералічаны імёны дванаццаці чалавек, на якіх можна было заводзіць справу. Аднак яе завялі толькі на майго сына», — гаруе ён. Акрамя Акіма Беняша, крымінальная справа была заведзеная яшчэ на аднаго салдата, іншыя вайскоўцы атрымалі пракурорскія папярэджанні. «Іх раздавалі як крыўдзіцелям, так і пацярпелым — за тое, што не даклалі», — расказвае Бянеш-старэйшы.

### Трошкі пабіліся

Бацьку сітуацыя бачыцца так: «У «вучэбцы» ўсё было добра, але ў вайсковай часці 30151 у Фаніпалі пачаліся праблемы са стараслужачымі, «дзядамі». Мы ў Акіма заўважалі драпіны на твары. Галава была пабіта. Я прывёз яму гамбургер, бачу: ён есць, а з губы кроў цурчыць. Ён аднекваўся, маўляў, нічога сур'ёзнага, трошкі пабіліся. Я размаўляў з кіраўніцтвам часці, і яны абяцалі ўрэгуляваць канфлікт».

### Збівалі калектыўна

«Маладых салдатаў збівалі калектыўна, — сцвярджае Алег Бянеш. — На Акіма накінуліся 4 чалавекі. А ў сына моцнае пачуцце справядлівасці, і ён пачаў аказваць супраціў. На жаль, ён не бачыў іншага выйсця як біцца ў адказ. Ён адлоўліваў крыўдзіцеляў па адным і выходзіў з імі «на разы», як мужчына з мужчынам. Вакол яго пачалі гуртавацца іншыя маладыя салдаты», — расказвае сп.Бянеш.

Але, прызнае ён, атрымаць сведчанні ў абарону было амаль немагчыма: «маладняк» баіцца.

Па яго словах, кіраўніцтва не прадпрымала належных мераў. «Справу заводзяць па факце, калі бачны сляды збіцця. Б'юць салдату у грудзі — візуальна нічога не заўважна. А вось паламаная рука ці фінгал — іншая рэч. Мой сын паставіў «дзеду» сіняк пад вокам — на яго і завялі справу».

Справу ініцыяваў афіцэр.

Бянеш-бацька наракае, што Следчы камітэт не даваў яму ніякай інфармацыі. «Увогуле, калі чалавек прыходзіць у войска, у яго знікаюць многія правы грамадзяніна. Цяпер ён не грамадзянін — ён салдат». І гэта праблема.

### Вырашыць мірна

«Акім — спартовец, займаўся грэка-рымскай барацьбой. Таксама ён піша вершы, чытае рэп і запісаў са сваім гуртам 7 альбомаў. Наведваў хрысціянскую суполку.

Перад судом Акім сказаў, што хоча прачытаць верш у якасці заключнага слова. Але я адгаварыў яго, кажа бацька.

У часе следства Акіму яфрэйтара далі. Значыць, служыць хлопец нармальна.

Праблема ў тым, мяркуе Бянеш, што сістэма не вучыць маладога салдата паводзінам у крытычнай сітуацыі. Яны не ведаюць сваіх



У часе следства хлопцу далі яфрэйтара

правоў, не ведаюць статута: да каго звярнуцца, каму дакладваць, на якіх тэлефонах.

«Пасля суда я планую праявіць грамадскую ініцыятыву — выдаць буклеты для прызыўнікоў. Там будзе каля 15 прыкладаў экстрэмальных сітуацый у войску і апісаныя шляхі рашэння, будуць кантактныя тэлефоны».

Таксама ён прапануе: чаму б не паставіць танныя камеры ў казармах?

Што да судовай справы сына, то бацька марыць, каб усё скончылася міравым пагадненнем: «Вось езджу, збіраю неабходныя распіскі для суда». Для бацькі галоўнае цяпер нават не тое, каб «дзяды» панеслі пакаранне — хоць ён гатовы, калі спатрэбіцца, стаяць на тым да канца. Галоўнае, каб прысуд не паламаў жыцця сыну.

### «Дзедаўшчына — гэта здрада»

І Вайсковая пракуратура, і Мінабароны неахвотна гавораць пра далікатную справу Акіма Беняша.

«Кропку ў справе паставіць толькі суд, і да прысуду нельга штосьці каментаваць, — сказаў «НН» начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Уладзімір Макараў. — Аднак я не сумняваюся ў кампетэнтнасці нашага суда, таксама як і ў кампетэнтнасці органаў следства. Тым больш, што шмат з іх ніякім чынам не звязана з Міністэрствам абароны. Дарэчы, у Беларусі паказчыкі крыміналу ў войску ніжэйшыя, чым у многіх іншых краінах. У нас статыстыка адкрытая, летась у нас было 1,7 крымінальнай справы на 1000 вайскоўцаў.

Мы будзем выкараняць любыя праявы «дзедаўшчыны» законам, бо гэта літаральна здрада радзіме, бо «дзедаўшчына» супярэчыць асноўнай рысе менталітэту беларусаў — калектывізму».

На пытанне пра лёс крыўдзіцеляў Акіма Беняша, у бойцы з якімі ён і «зарабіў» сабе крымінальную справу, Макараў сказаў, што, «наколькі мне вядома, усе справы былі закрыты».

«Усе тыя «дзяды» дэмабілізуюцца 15 мая», — кажа нам Алег Бянеш.

**Кірыла Хілько**



**85-гадовая жанчына дабіраецца ад хлева да хаты па драўляным насціле.**

Фотафакт

## «Вада — не агонь, перажывём»

Ад вялікай вады церпяць не безназоўныя вёскі, а **жывыя людзі**.

Вялікая вада прыйшла ў 10-тысячны Петрыкаў — разлілася Прыпяць.

У 1930-я хаты пабудаваны на так званых тэрасах, ці узвышэннях, і вада іх амаль не кранае. Пасляваенныя будаўнікі такой прадбачлівасцю не вызначаліся. У 1970-х зямлю без разбору выдзялялі ўжо ў нізіне.

Гаспадар падворка на Прыпяцкім завулку Леанід, усміхнуўшыся, кажа: «Вада — не агонь, перажывём». А потым праводзіць далонню рысу па плоце, прыкладна на вышыні пояса, гэтак затаплівала падворак падчас магутных паводак 1977 і 1979 гадоў.

«Сад шкада і жончыных кветак», — ківае гаспадар на затопленыя яловыя галінкі, што ўзімку ўкрывалі ружавыя кусты. Апроч таго, вада падмывае сцяну, падмурак прасядае, і ад яго цягнуцца пад самы дах дзве расколіны.

Палешукі спакойна адносяцца да паводкі, для іх вялікая вада — не самае моцнае выпрабаванне. На месцы бачыш, што МНС робіць усё магчымае і без дадатковых загадаў зверху.

Як расказвае Васіль Сцяпанавіч, гаспадар найстарэйшай хаты ва ўзбярэжнай нізіне, яго сусед самастойна арганізаваў падвоз 5 КРАЗаў пяску з ПМК для будаўніцтва дамбы. Але жадаючых дапамагчы Васілю раскідваць рыдлёўкай пясок не знайшлося.

Пры гэтым цікава, што мясцовая ўлада таксама загадзя выдзеліла пясок для абароны вуліцы Узбярэжнай ад вады, але яе жыхары расцягнулі ўсё па сваіх гаспадарчых патрэбах.

**Ягор Жукоўскі, Петрыкаў—Мінск**

# Гэта вам за Беларусь

**Іран з «Аперацыі «Арга», Шатландыя «Адважнага сэрца», татальны кантроль ГДР з «Жыцця іншых» — гэта мы ўсё можам прыняць, гэта нас захапляе. А Беларусь, апісаная мовай блокбастара?**

Новы фільм, зняты Польскай дзяржаўнай кінастудыяй (WFDIF) і французскім Canal+, так і называецца: «Жыве Беларусь». Ці, у еўрапейскай пракатнай версіі, Viva Belarus. Гэта першы мастацкі фільм пра сучасную Беларусь, зняты вялікай кінаіндустрыяй. Ён адразу выклікаў — мастацкі твор з бюджэтам у 1,9 млн даляраў не можа не выклікаць — буру абмеркаванняў. Праўда ці выдумка? Няўжо наша Беларусь аж такая?

Прарока ў сваёй айчыне няма. «У Беларусі фільм не будзе прыняты ні адным, ні другім бокам», — прагназуе прадзюсар Сяргей Будкін. Гэта значыць, ні афіцыёзам, ні дысідэнтамі. Афіцыёз будзе бачыць у ім «ачарненне рэчаіснасці», а нефармалаў расчаруе, што гэта, кажа Будкін, «фільм больш пра постсавецкае войска, пра дзедаўшчыну, а не пра Беларусь».

Адразу, каб апярэдзіць пытанне. Паглядзець фільм у Беларусі магчымасці пакуль няма. Яна з'явіцца пазней, калі паказы пройдуць у свеце. Тады можна будзе спампаваць з торэнтаў і купіць у незалежных распаўсюднікаў.

Як фільм прымуць у Еўропе, стане ясна ўжо 19 красавіка, калі яго паказ пачнецца ў кінатэатрах Польшчы — спачатку ў Варшаве і Беластоку.

Адзін з аўтараў сцэнару — Франак Вячорка — ладзіў некалькі закрытых паказаў у Мінску. Публіка ўспрыняла кіно па-рознаму.

Асноўная прэтэнзія — перабольшанне бедаў і страхоцця. Беларусь падаецца краем гаротным. Асабліва правінцыя. Мінск выглядае хутчэй тусовачным, клубным, багемным.

«Жыве Беларусь» — гэта, безумоўна, блокбастар. Фільм, разлічаны на тую ж публіку, якая глядзіць прадукцыю Галівуда. Гэта не вузкалобы артхаўс, дзе можна патрабаваць дакументальнай дакладнасці. Перабольшанняў патрабуе жанр блокбастара. Хіба няма іх у сёлетняга пераможцы «Оскара», фільма «Аперацыя «Арга»? Хіба няма гіпербалізацыі ў іншых галівудскіх фільмах? Яшчэ якія!

Але разам з тым «Жыве Беларусь» — не фільм-пустышка. Аўтарам удалося паставіць сур'ёзныя пытанні. Перадусім адвечныя: чаму Беларусь не беларуская? Чаму Беларусь не свабодная? Чаму Беларусь не такая, як іншыя краіны Еўропы?

Калі ты не хочаш займацца палітыкай, то палітыка ўсё адно прыйдзе да цябе сама. Старая ісціна. Галоўны герой — Мірон Захарка — як пацверджанне. Папулярны рок-музыка кідае выклік сістэме, а выходзіць з гэтага процістаяння калекам (нагадала «Палёт над гняздом зязюлі»).

Нехта скажа, што кіно «чорнабелае». А потым прыглядаешся — не, кожны герой з мноствам адценняў. Салдат Шэры — бязвольны інтэлігент. Ён цвёрды ў сваіх перакананнях, але не здольны іх абараніць. Сяржант Руслан часам падаецца поўным дэгенератам. Але і ў ім прачынаецца людскае. А зампаліт? Увогуле адзін з найцікавейшых персанажаў. І яго ная ўнутраная барацьба «белага і чорнага» праходзіць праз увесь фільм.

Лукашэнку ніхто сыграць не адважыўся. Але што за фільм пра сучасную Беларусь без Лукашэнкі? Кіраўнік краіны прысутны на тэлебачанні, у газетах, у прысязе, на білбордах. «Няма такіх білбордаў», — скажа глядач. Так, няма. Але сутнасна білборды «За Беларусь» успрымаюцца як партрэты Лукашэнкі, партрэты сістэмы.

У мяне асабіста прэтэнзія да фільма толькі адна. Калі мы дамовіліся, што гэта блокбастар — дзе хэпі-энд? У пачатку фільма ў армейскіх зводках праходзіць інфа, што чвэрць салдатаў з вышэйшай адукацыяй падтрымліваюць апазіцыю. Захарка ўскалыхнуў грамадства, але, падаецца, якраз у межах гэтай чвэрці. Сярод моладзі, што ходзіць на канцэрты ды спявае пад гітару Вольскага ў дварах, сярод студэнтаў, крыху сярод мясцовых убогіх. За гэтыя межы дзе выхад? Ці ёсць ён, хоць у кіно?

З другога боку, хэпі-энд гэтаму фільму, магчыма, і не патрэбны. Так трагедыя аднаго чалавека на фоне трагедыі нацыі ўспрымаецца выразней.

Жыве Беларусь? Яна-то жыве, але што гэта за жыццё?

**Зміцер Панкавец**

**«Жыве Беларусь» /Viva Belarus**

Вытворчасць: Польшча, 2012

Рэжысёр: Кшыштаф Лукашэвіч.

Ролі выконвалі: Зміцер Папко («Вінсэнт»), Караліна Грушка, Анатоль Кот, Дзяніс Тарасенка, Алесь Малчанаў, Раман Падаляка, Аляксандр Памідораў, Зміцер Бародка, Франак Вячорка.

Фільм здымалі: Польская дзяржаўная кінастудыя мастацкіх і дакументальных фільмаў (WFDIF) і французскі Canal+.

Сусветны дыстрыбуцыяй займаецца: кампанія Intramovies (Італія).

Бюджэт: 1,9 млн даляраў (частка сродкаў — Canal+, асноўныя — польскі ўрад).

Прэм'ера ў Польшчы: 19 красавіка 2013.

**Сюжэт**

Галоўны герой фільма — рок-музыка Мірон Захарка, гурт якога трапляе ў «чорны спіс», а сам ён — у войска. Яго допісы ў інтэрнэт-блогу, дзе ён раскрывае цёмныя бакі жыцця ў казарме, выклікаюць «вэб-рэвалюцыю».

**Вінсэнт**

Ролю рок-музыкі Мірона Захаркі выканаў рэпер Зміцер (Вінсэнт) Папко. Народжаны ў Івацэвіцкім раёне, ён вучыўся ў БДУ на журфаку, а пасля выбраў мастацкую кар'еру.




**Песня з фільма**

*(словы і музыка Лявона Вольскага)*

Для генерала краіна — вайна.
Для нефармала краіна — чума.
Для радыкала краіна — турма.
Але для большасці краіны няма.

Для панславіста краіна — адна.
Для сатаніста краіна — труна.
Для гітарыста краіна — струна.
Але для большасці краіны няма.

Вярні жыццё сваёй краіне,
Яна ў сне халодным гіне!
Вярні жыццё сваёй зямлі,
Яе сівыя снягі замялі.

Для нелегала краіна — зіма.
Для адмірала краіна — карма.
Для выкідалы краіна — карчма.
Але для большасці краіны няма.

Вярні жыццё сваёй краіне,
Яна ў сне халодным гіне!
Вярні жыццё сваёй зямлі,
Яе сівыя снягі замялі.
Вярні жыццё сваёй краіне,
Яна ў сне халодным гіне!
Вярні жыццё сваёй зямлі,
Масты спалі і зямлю асвятлі.

**Каму спадабаецца**

Маладафронтаўцам.

**Каму не спадабаецца**

Ідэолагам.

**Цікава, ці спадабаецца**

Людзям незаангажаваным.

**Самы моцны эпізод**

Сяргей Будкін: Моцны эпізод — прысяга. Салдат Шэры адмаўляецца прымаць прысягу па-расейску, патрабуе прысягі па-беларуску. Гэты эпізод спісаны з гісторыі студэнта-праграміста з Гомеля Змітра Жалезнічэнкі. Адзін з найбольш драматычных у фільме. У любой краіне пасля яго кожны чалавек зразумее, што за адвечную «крыўду» нясуць на сваіх плячах тыя беларусы.

**Знаходкі**

**Выдатны акцёрскі падбор** (Кот, Малчанаў, Падаляка, Вінсэнт). Эратызм Караліны Грушкі неаспрэчны, але хацелася б у ролі Веры бачыць усё ж беларуску.

**Бліскучае музычнае суправаджэнне** ад Лявона Вольскага — адна з разынак фільма.

**Назіранне Захаркі за падлікам галасоў.** Праз дзвярную шчыліну бачная толькі траціна экрана. Такое відэа здымалі на мабільныя тэлефоны. Выглядае вельмі праўдападобна.

**Збіццё Захаркі**, якое ініцыююць «дзяды». Перад «духамі» ставяць складаны выбар. Кожны чакаў, хто ўдарыць першым, каб біць астатнім не было так сорамна.

**Пятро Садоўскі: Фільм будзіць рой успамінаў**

Паглядзеўшы фільм, як той Пітэр Брук, я дабудоўваў сваю «пустую прастору». Мой станоўчы «катарсіс» пасля ста хвілінаў глядзення запоўніўся роем успамінаў: «інтэрактыўныя» пастаноўкі «Клеменса», «Тутэйшых»... Адзінства залы і сцэны: Маслюк, Мазынскі, Пінігін — з народам... Нават «Ісус Хрыстос — супэрзорка» прыгадаўся, з дзейнай асобай «натоўп». Ажылі Пятрок і Сцепаніда са «Знаку бяды», што сталі маўклівымі героямі, малады хлопец-беларус з «Чужой бацькаўшчыны» Адамчыка ў пастаноўцы Валерыя Рыбарава. Хлопец ідзе збіты з польскага пастарунку пад дажджом па гразкім полі. Голас за кадрам пытаецца: «Дзе яна, тая Беларусь?»... Узгадаўся нямецкі фільм пра ГДР і штазі «Жыццё іншых» з доўгімі калідорамі архіваў дзяржбяспекі і паліцамі слоікаў з брунатнымі анучкамі з пахам поту тысячаў грамадзян... Уваччу ажылі маскаваныя аўтаматчыкі, што валаклі нас, дэпутатаў-галадоўнікаў Вярхоўнага Савету 12-га склікання, і запіхвалі ў варанкі...

# Страшны выбух на бостанскім марафоне

Сярод удзельнікаў **былі і беларускі**.



Тры чалавекі загінулі, 140 параненыя — такія сумныя вынікі штогадовага бостанскага марафона. Два выбухі прагрымелі ля самай фінішнай рысы на Бойлстан-стрыт у панядзелак.

Бостанскі марафон — адзін з самых вядомых у свеце. На яго з'язджаюцца ўдзельнікі з усіх ЗША і краін свету. Сёлета ў спаборніцтвах удзельнічала больш за 26 тысяч чалавек з 86 краін свету.

У марафоне ўдзельнічала і грамадзянка Беларусі — 33-гадовая Алена Макоўская (741-ае месца ў сваёй катэгорыі). Алена ўжо даўно жыве ў ЗША, бярэ ўдзел у многіх забегах. А вось 32-гадовая Жанна Івашчанка на дыстанцыю не выйшла.

Пазней паліцыя абясшкодзіла яшчэ дзве бомбы. Ніхто пакуль што не ўзяў на сябе адказнасць за выбухі. Гэта самы вялікі тэракт у ЗША ад 11 верасня 2001.

**Алег Гардзіенка**

# Штангістка-сенсацыя родам з Карэліч



Алена Чычкан.

У албанскай Тыране прайшоў чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы.

Беларусы прывезлі з «краіны арлоў» два медалі. Хоць і паехалі на спаборніцтва без лідараў (Новікава, Арамнаў).

У вагавай катэгорыі 69 кг срэбра дасталося Дзіне Сазанавец з Крычава. Яна нават перамагла ў рыўку, але па суме двух практыкаванняў саступіла расейцы Слівенцы.

Але тут нічога дзіўнага няма. Толькі некалькі лішніх грамаў вагі не дазволілі Сазанавец узяць медаль на Алімпіядзе ў Лондане. Там яна была чацвёртай.

Затое абсалютную сенсацыю стварыла 19-гадовая Алена Чычкан з Карэліч (58 кг). Дзяўчына ніколі не выступала на дарослым узроўні. Ды і ў юніёрах не хадзіла ў лідарах. Аднак на гэтых спаборніцтвах яна не пакінула шанцаў канкурэнтам (сярод якіх была гаспадыня турніру албанка Рамэла Бегаж).

Чычкан трэніруецца пад кіраўніцтвам славутага цяжкаатлета, двухразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Курловіча.

Варта адзначыць, што жаночая цяжкая атлетыка (гэты від спорту гробіць здароўе) моцна развіты толькі ў краінах Усходняй Еўропы. У развітых заходніх краінах у такія секцыі дзяўчынак не аддаюць.

**Зміцер Панкавец**

# Хто напісаў паланэз Агінскага?

Нядаўна ў эфір аднаго з расійскіх тэлеканалаў выйшла праграма Барыса Собалева, куды ўвайшло інтэрв'ю з жонкай футбаліста Юрыя Жыркова, калінінградскай мадэллю, «Місіс Расіяй-2012» Інай Жырковай.

Запіс перадачы разляцеўся ў блогах і СМІ. Прычынай такой павышанай увагі сталі адказы Іны на некалькі простых пытанняў. У прыватнасці, хто напісаў «Паланэз Агінскага» і ці круціцца Зямля вакол Сонца. Дзяўчына не змагла даць адказы.



Піяр-менеджар Жыркова Дар'я Арсланава напісала, што інтэрв'ю з жонкай футбаліста было сфабрыкаваным. «Собалеў у сваёй праграме апускаецца да бруднага паклёпу», — заявіла Арсланава. Яна не выключыла магчымасці суда.

Сам жа аўтар кажа, што ніякага мантажу не было. «За кожнае вымаўленае ў эфіры слова я гатовы адказваць суддзі з матэрыяламі ў руках», — сказаў журналіст.

Гледачы падзяліліся на два лагеры. Адны лічаць, што жонку Жыркова спецыяльна паказалі ў нявыгадным святле, а іншыя, наадварот, спагады да прыгажуні не адчуваюць.

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Імя Мельцэрзона

Апошнім часам усё часцей чую пра Якава Барысавіча Мельцэрзона, што пасля вайны колькі гадоў выкладаў фізіку ў 42-й мінскай школе.

Чытаю раман Някляева пра аўтамат з газіроўкай, і на першых старонках сустракаю Якава Барысавіча, 42-ю школу, таго-сяго з раманнай гоп-кампаніі і нават Жарэса Алфёрава, Нобелеўскага лаўрэата, які «быў стылягам, насіў порткі-дудачкі ды стракатую кашулю з малпамі»...

Трохі спрэчнае сцвярджэнне. Які стыляга пры Сталіну, у 1947, калі Жарэс Алфёраў з'ехаў з Мінска назаўжды?!.

Але справа не ў гэтым.

Гартаю папулярную газету і дазнаюся, што вучні 42-й школы, зараз гімназіі, звярнуліся да Жарэса Алфёрава па дазвол надаць ёй ягонае праслаўленае імя. Ён адказаў: «З удзячнасцю дазваляю». І «ўсе мы, — паведамляе адзін з вучняў, — з заміраннем чакаем гэтай падзеі»...

Але справа не ў гэтым.

Справа ў Мельцэрзону. Бо менавіта ён, сціплы мінскі настаўнік фізікі, праклаў Жарэсу Алфёраву сцяжынку да Нобеля.

Каб не Нобель, ніхто, за выключэннем, можа, яшчэ жывых вучняў, не ведаў бы пра Якава Барысавіча Мельцэрзона. А сёння дзе Жарэс Алфёраў, там і Якаў Барысавіч Мельцэрзон. Няма аніводнага інтэрв'ю ці якога яшчэ аповеду пра сваё жыццё і прафесійныя дасягненні, дзе знакаміты фізік не згадваў бы першага настаўніка.

Я таксама вучыўся ў Мельцэрзона і добра памятаю ўсмешлівае шкадаванне ў вачах за акулярамі з тоўстым шклом, з якім ён выводзіў мне выратавальны «траебан», як мы тады называлі адзнаку «здавальняюча». На вучняў, што атрымлівалі ў яго «выдатна», я глядзеў не тое што з зайздрасцю, а як на іншапланетных істот, якім падуладны неабсяжныя таямніцы.

Адным з такіх «іншапланецян» быў Генік Шыдлоўскі.

Някляеў піша, што ў Мельцэрзона «на фізіка вывучыўся толькі Жарэс Алфёраў...» Гэта, мусіць, мастацкая выдумка. Бо на фізіка вывучыўся ў Мельцэрзона яшчэ і Генік Шыдлоўскі.

Дарэчы, Генік Шыдлоўскі таксама згадваецца ў рамане Някляева — у нейкай неакрэсленай постаці, у неабавязковым, праз коску, пераліку.

Але справа не ў гэтым.

Справа зноўку ж у Мельцэрзону. Бо і Геніка Шыдлоўскага ён таксама паставіў на сцежку да Нобеля.

Алфёраў, праўда, тупаў па той сцежцы ўжо 10 гадоў. А Шыдлоўскі зрабіў па ёй толькі два крокі — скончыў школу з залатым медалём і паступіў на фізфак БДУ.

БДУ ўзначальваў таксама фізік — акадэмік Сеўчанка. І былі ўсе падставы спадзявацца на тое, што сцежка да навуковых вышынь падоўжыцца без перашкод.

Але хто ж тады думаў пра Нобеля акрамя Мельцэрзона? Ну і, вядома, Алфёрава, які зведаў паўпраўду аб сталіншчыне ў сталым узросце і ў добрым, так бы мовіць, фізічным стане...

## Напрыканцы 50-х сцежка да Нобеля і сцежка да свабоды разышліся

Шыдлоўскі зведаў тую паўпраўду яшчэ школьнікам — з натхнёнай ілюзіяй пра сцежку, што вядзе да свабоды.

Так разышліся напрыканцы 50-х гадоў сцежка да Нобеля і сцежка да свабоды, на каторай ужо чакаў Геніка іншы павадыр у выглядзе дамарослага Вергілія — Кіма Хадзеева. Ці Палкоўніка, як у Някляева...

А напачатку 60-х па ўніверсіцеце пракаціліся суды.

Іх называлі «судамі гонару». Вывешваліся аб'явы з прозвішчамі «падсудных», біткам набіваліся залы...

Суд над Шыдлоўскім адбываўся ў актавай зале нядаўна пабудаванага галоўнага корпуса. Судзіў сам Сеўчанка, сухарлявы стары з гожай акадэмічнай знешнасцю. Ён зачытваў вытрымкі з асабістага дзённіка Шыдлоўскага, ніколькі не саромеючыся ганебнасці гэтага акта, і, звяртаючыся ў асноўным да жаночай паловы залы, біў напавал: «Вось бачыце, што ён пра вас піша!» Наколькі памятаю, гэта было даволі нервовае, у простых выказваннях, разважанне — у тыя гады! — пра прастытуцыю ў СССР, яе вытокі і, так бы мовіць, перспектывы. Нехта ўскрыкваў, нехта ўсхліпваў... «Ды ён падрывае падмурак нашага грамадства! — усклікнуў акадэмік. — Ведаеце, хто ягоны кумір?!» Мы падрыхтаваліся пачуць нешта жудаснае. «Ну, гэты, як там яго... Эрэнбург!»

Акадэмік Сеўчанка лічыўся выдатным фізікам, але яго, на жаль, не вучыў Мельцэрзон.

Шыдлоўскі быў страшэнна дасціпны, дакладней, невычэрпна кплівы з усяго і ўсіх, аднак без аніякай абразы. Вось і тады, атрымаўшы слова быццам для пакаяння, ён сказануў нешта неймаверна смешнае, ад чаго ўся зала грымнула рогатам і адразу змоўкла, аглушаная рэзкім, на высокай брынклівай ноце, крыкам: «Во-о-н!»...

Шыдлоўскага выключылі з універсітэта, праз год, здаецца, аднавілі, але хутка, і гэта ўжо дакладна, ён памёр. Ад передазіроўкі наркотыкаў...

Па справядлівасці, калі сапраўды прысвойваць 42-й гімназіі імя, то хай гэта будзе імя Мельцэрзона.

Вядома, людзі будуць пытацца: а хто такі Мельцэрзон?

А гэта, пачуюць, той настаўнік, што вывучыў Жарэса Алфёрава, Нобелеўскага лаўрэата, і Геніка Шыдлоўскага, які заўчасна памёр.

# «Увесь беларускі народ у бамжаватым выглядзе»

Тэкст экспертызы **экстрэмісцкіх здымкаў** «Прэс-фота Беларусі».

Адна з арганізатарак «Прэс-фота Беларусі» Юлія Дарашкевіч апублікавала тэкст экспертызы альбома фотаконкурсу, зробленай ідэолагамі і выкладчыкамі на замову КДБ.

«Экстрэмізм знайшлі нават у рубрыках «Спорт» і «Прырода»», — адзначае яна.

Экспертная камісія ўключала ў сябе чатырох чалавек: гэта Скрабко, начальнік упраўлення ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама, Хілюта, загадчык кафедры крымінальнага права і крыміналогіі юрфака Гродзенскага ўніверсітэта (ГрДУ), Шульга, загадчыца кафедры замежных моваў ГрДУ, Бондар, старшы выкладчык кафедры дызайну ГрДУ.



На здымку «Дэманстрант, збіты міліцыянтамі, ляжыць ля сценаў Дома ўрада» ўтрымліваюцца загадзя ілжывыя звесткі, прадстаўленыя ва ўласных выдумках аўтара ў выглядзе грубай характарыстыкі якасцяў і дзеянняў супрацоўнікаў сілавых структур у выглядзе выказвання «збіты міліцыянтамі», гэта значыць, супрацоўнікі сілавых структур падаюцца як непадкантрольныя, небяспечныя асобы, патэнцыйныя крыніцы праблем, якія выклікаюць страх і боязь у іншых, якія парушаюць закон.



Фотаздымак з анатацыяй «Мужчыны прымяраюць капелюшы на вулічным кірмашы» падае жыхароў беларускага населенага пункта, а ў іх асобе ўвесь беларускі народ у непрывабным выглядзе — жабракамі, бамжаватага выгляду на фоне новых заходніх рэчаў. Распаўсюд такой інфармацыі ў сродках масавай інфармацыі фармуе ў чытачоў скажоныя ўяўленні аб маральным абліччы беларускага народа, прыніжае нацыянальны гонар і годнасць беларусаў як нацыі і выклікае негатыўнае стаўленне чытачоў да Беларусі ў цэлым.



Фотаздымак «Сарваны дзяржаўны сцяг ляжыць на вуліцы пасля акцыі пратэсту» з'яўляецца уласнай выдумкай аўтара, якая змяншае гонар і годнасць беларускага народа — Дзяржаўны сімвал Рэспублікі Беларусь.



У фотаматэрыялах рубрыкі «Спорт» прадстаўленыя элементы спартыўнага жыцця ў Рэспубліцы Беларусь у нізка эстэтычным ракурсе, месцамі — у непрыстойным выглядзе, у цэлым негатыўна дэманструюць паказаную сферу жыцця беларускага грамадства.



Фотаматэрыялы рубрыкі «Прырода» змяшчаюць фатаграфіі збору, нарыхтоўкі і кансервацыі грыбоў на фоне знака радыяцыйнай небяспекі, ілюструючы ў стылі алегорыі прыніжальны стан беларускай нацыі, яе прыроды.



Фотаздымак ажыццёўлены з падобнага ракурсу спецыяльна, каб прадставіць Кіраўніка дзяржавы ў непрывабным выглядзе, што з'яўляецца абразлівым у адносінах да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, змяншае яго аўтарытэт і падрывае давер да яго з боку замежных дзяржаў і жыхароў Рэспублікі Беларусь.

# Чаго пабіліся пацаны і міліцыянты ў Дзяржынску

Цяпер бакі высвятляюць, **хто вінаваты**.

Правінцыйная патасоўка нецвярозых з міліцыянтамі мо так і скончылася б штрафамі, каб хлопцы не пачалі адстойваць сваю невінаватасць. І цяпер ім пагражаюць ужо рэальныя тэрміны.

Удзельнікі тых падзей — 30-гадовы Сяргей Хачатуран і 25-гадовы Віталь Ганчар. Іх абвінавацілі ў супраціўленні міліцыянтам.

Ноччу 17 сакавіка маладыя людзі каля рэстарана «Дзяржынск» наўмысна асвісталі і аблаялі паставых. А калі ў іх папрасілі дакументы, прыгразілі расправай ды адказалі бойкай на спробу затрымання. Такую версію распаўсюдзіла УУС Мінаблвыканкама праз некалькі дзён пасля інцыдэнту.

«Гэта ў іх, напэўна, прадузятыя адносіны да мяне. Толькі не ведаю чаму, што я ім кепскага зрабіў. Заўжды да мяне звярталіся і я дапамагаў. Як гэта здарылася, то адвярнуліся, перасталі вітацца», — кажа Хачатуран, да якога на СТА рамантавацца не адзін раз заязджалі і міліцыянты.

### Білі на вуліцы, білі ў міліцыі

«Мы выйшлі з рэстарана, стаялі і размаўлялі. Таварыш пайшоў наперад з дзвюма дзяўчынамі. Я паварочваюся, а Віталя пачынаюць скручваць міліцыянты. Падышоў, пацікавіўся, за што яго забіраюць. Папрасілі мае дакументы, а ў мяне іх не было з сабой. Сказалі, што тады паеду з імі. Без тлумачэння прычыны, — расказвае Сяргей Хачатуран. — Дубінку адзін з іх дастаў і ўдарыў. Я адключыўся. Калі прыйшоў у сябе, на мяне начапілі кайданкі, працягвалі збіваць. Спачатку двое, а затым яшчэ нарад пад'ехаў. Пасля адвезлі ў аддзяленне, дзе таксама білі».

Хачатурана на наступны дзень з міліцыі «хуткая дапамога» забрала ў бальніцу. Дыягназавалі чэрапнамазгавую траўму, страсенне, ушыбы твару і грудзіны. У бальніцы ён ляжаў дзевяць дзён, пасля яшчэ знаходзіўся на лячэнні дома.



Сяргей Хачатуран пасля бойкі з міліцыянтамі.

### Не асудзілі і не апраўдалі

Пасля затрымання на Хачатурана і Ганчара склалі пратаколы за дробнае хуліганства. На Сяргея яшчэ «павесілі» з'яўленне п'яным у грамадскім месцы. «Пратакол склалі, калі я быў у бальніцы, — без майго ведама. А на ім напісалі, што я не згодзен і адмовіўся падпісаць». Пра такі дакумент ён даведаўся пастфактум. Пра гэта і заявіў на судзе. Суддзя Крупец выявіў разыходжанні ў паказаннях міліцыянтаў, што затрымлівалі хлопцаў. Заблытаўшыся, яны пацвердзілі, што пратаколы былі складзены без затрыманых, у той час як пазнакі «ад подпісу адмаўляюся» ад імя Ганчара і Хачатурана на дакументах прысутнічалі.

Суддзя Крупец нават зрабіў заўвагу, што яны «не знайшлі час пачытаць уласныя рапарты».




Такая цыдулка выпадкова аказалася ў матэрыялах справы. Цяпер следчыя будуць высвятляць яе паходжанне.

І абвінавачванне міліцыянты самі развалілі. Справу спынілі, але фармулёўка аказалася нечаканай: «суд прыйшоў да высновы, што ў правапарушэнні ёсць прыкметы злачынства». А матэрыялы накіроўваюцца ў Следчы камітэт. Гэта значыць, іх далучаць да крымінальнай справы супраць Хачатурана і Ганчара.

У матэрыялах адміністрацыйнай справы Віталь Ганчар з адвакатам знайшоў цікавы дакумент. Запіска ад невядомай асобы да суддзі Крупца. «Гэта па справе супраціўлення раб. міліцыі, пратакол, каб апраўдаць дзеянні ППС». Цікава, што напісаная яна на фірмовым бланку з міліцэйскага блакнота. Запіску хлопцы накіравалі ў Следчы камітэт. Яны не выключаюць, што на прысуд нехта паўплываў.

### «Папрацуй у міліцыі, столькі дзярма ўбачыш...»

Міліцыянты, якія трапілі ў скандал, — 28-гадовы Віталь Клімашэўскі і 21-гадовы Дзмітрый Касцевіч. Апошні сваю версію тых падзей апісаў у сацыяльных сетках.

«Папрацуй, столькі дзярма ўбачыш, што з боку цывільнага чалавека ты ніколі не ўбачыш, — адрэагаваў хлопец на абразы ў свой адрас. — Паважаныя Сяргей Хачатуран і Ганчар Віталь, па-першае, знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення ў грамадскім месцы. Па-другое, Хачатуран, якога вы абараняеце, абразіў, мякка кажучы, супрацоўніка АУС. Па-трэцяе, зманіў пра наяўнасць пашпарта, хаця гэта не так важна. Але самае галоўнае, што яны ўдвух аказалі супраціўленне супрацоўнікам АУС пры выкананні службовых абавязкаў, пасля чаго і былі затрыманыя. Яны неаднаразова былі папярэджаныя пра прымяненне фізічнай сілы і спецсродкаў. І на просьбу праехаць у Дзяржынскі РАУС для высвятлення асобы менавіта Сяргей Хачатуран адмовіўся ў грубай форме, накінуўся на супрацоўніка міліцыі, Віталя Клімашэўскага, у выніку адарваў яму кішэню, пасля чаго спрабаваў збегчы».

Сяргей Хачатуран і Віталь Ганчар падалі заявы ў Генеральную пракуратуру і Следчы камітэт: стараюцца даказаць сваю невінаватасць. Калі ж палічаць, што хлопцы не мелі рацыі, яны могуць сесці ў турму да пяці гадоў.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**17-гадовая мінчанка** падазраецца ў крадзяжы мабільніка. Папрасіўшы сотавы ў незнаёмца патэлефанаваць, яна збегла з тэлефонам. З яго зайшла ў інтэрнэт і праз сайт знаёмстваў у той жа вечар прызначыла спатканне хлопцу. Той запрасіў яе да сябе. А калі заўважыў, як тая капалася ў ягоных рэчах, выгнаў. Высветлілася, што дзяўчыну шукае сталічная міліцыя па падазрэнні ў іншых эпізодах.

Хто валодае інфармацыяй пра месцазнаходжанне падазраванай, тэлефанаваць у Першамайскае РУУС на: (017) 280-14-08.



Расшукваецца **Сцяпанава Ірына Мікалаеўна**, жыхарка Мінска. 7 красавіка каля 19.00 яна забрала свайго 10-гадовага сына Міхаіла з сацыяльна-педагагічнага цэнтра і звезла ў невядомым кірунку. Прыкметы жанчыны: на выгляд 45 гадоў, рост 158 см, валасы светла-русыя. Была апранутая ў блакітную куртку, замшавыя чаравікі бежавага колеру. Пры сабе мела заплечнік. Хлопчык быў апрануты ў вязаную сінюю шапку, цёмна-сінюю куртку, шэрыя штаны, гумовыя боты.

Хто ведае месцазнаходжанне жанчыны з дзіцём, просьба тэлефанаваць на: (017) 239-40-98, (019) 226-20-93.



Лідскі РАУС расшуквае **Пясецкую Яўгенію Генадзьеўну**, гадаванку Лідскага дзіцячага дома. 28 ліпеня 2012 яна пакінула дом, і да сёння невядома яе месцазнаходжанне. Прыкметы: на выгляд 16—18 гадоў, рост каля 160—165 см, зялёныя вочы, валасы рудыя (фарбаваныя).

Хто валодае інфармацыяй пра зніклую, тэлефанаваць на: (0154) 52-02-02.

# Порна ў дзённым эфіры

На беларускім тэлебачанні **замест кліпаў** паказалі непатрэбшчыну.

На тэлеканале БелМузТБ 13 красавіка прыкладна ў 15.45 музычныя ролікі перапыніліся трансляцыяй парнаграфічнага відэа. «У кадры жанчына і мужчына з аголенымі геніталіямі ў буйным плане. Беларускае ТБ працягвае радаваць», — ахарактарызавалі ў інтэрнэце ўбачанае гледачы канала.

Супрацоўніка БелМузТБ, які дапусціў такі «збой», шукалі два дні і затрымалі ў Магілёве. Аказалася, што хлопец наўмысна на дзесяць хвілін улючыў у эфірны блок порна. А такі ўчынак патлумачыў прыгнечаным псіхічным станам, які ўзнік у яго пасля таго, яка ён пасварыўся з дзяўчынай.




Па словах гледачоў БелМузТБ, гэта не першы падобны выпадак. Яшчэ больш яны абураныя тым, што здарылася гэта ўдзень, калі каля экранаў былі дзеці. Між іншым, канал транслююць у сталічным гандлёвым цэнтры «Сталіца», у крамах і кавярнях.

На супрацоўніка канала завялі крымінальную справу. І цяпер ён можа трапіць у турму на чатыры гады.

**КМ**

## Сцісла

### Пасля дзвюх бутэлек сеў за руль

20-гадовы мінчук вырашыў пракаціцца на аўто пасля дзвюх выпітых бутэлек гарэлкі. Машыны не аказалася побач, і сеў за руль аўтобуса. Залезці ў кабіну здолеў, а завесці габарытны транспарт не ўдалося. Давялося перасесці ў «Сітраэн», які знайшоў у суседнім двары. У выніку язды разбіў тры аўто, аўтобус і свой твар.

### Замест грошай турма

Магіляўчанін перавозіў на сваім аўто з Польшчы ў Расію 149 г какаіну. Яго затрымалі ў Оршы. А пры вобшуку на кватэры знайшлі яшчэ 463 г наркотыку. Калі б удалося яго прадаць, то наркагандляр выручыў бы каля 150 тысяч даляраў. А так толькі можа сесці на восем гадоў.

### Узяўся за старое

У Лідзе затрымалі хлопца, які падазраецца ў нападзе на дзяўчат. Ён адбіраў грошы і ўпрыгожванні, а затым спрабаваў прыставаць да іх. Апошнюю ахвяру ледзь не згвалтаваў. Аказалася, затрыманага раней судзілі за крадзяжы, махлярства і згвалтаванне. Вызваліўся ён толькі ў сакавіку і адразу ўзяўся за старое.

**КМ**



Сяргей Гудзілін

Пытанне

## Што стане з «Баладай пра Бацькаўшчыну»?

Аўтавакзал «Маскоўскі» знясуць, каб збудаваць на яго месцы офісны будынак «Газпрама». Што стане з унікальнымі мазаікамі, якія ўпрыгожваюць яго інтэр'еры? Такіх няма больш нідзе. Кожны наведнік аўтавакзала, уваходзячы, трапляў у свет беларускіх паданняў — з волатамі-мужчынамі, мацнейшымі за зуброў, і светлымі прыгажунямі-кабетамі. Са сцэнамі ловаў, радаў, баляванняў продкаў. Бела-блакітныя, празрыстыя колеры, у якіх вытрыманы твор, надавалі постсавецкай архітэктуры светліні.

Трыпціх «Балада пра Бацькаўшчыну» стварыў мастак Віктар Хацкевіч, які цяпер жыве ў Нямеччыне. Мазаіка аўтавакзала «Маскоўскі» — самая значная са створаных у Беларусі за часамі незалежнасці: папулярны за савецкім часам жанр амаль знік у 1990-я. Хацкевіч — адзін з самых яскравых беларускіх манументалістаў, ён афармляў санаторыі на Нарачы, стварыў вітражы гасцініцы «Юбілейная» і Педуніверсітэта ў Мінску.

Намеснік генеральнага дырэктара «Мінсктранс» Віктар Апанасавіч Тозік патлумачыў карэспандэнту «НН», што далейшы лёс мазаікі невядомы, але запэўніў, што «калі яна мае нейкую культурную каштоўнасць, то тады будзе захаваная».

# Цырульнік, які перакладае фільмы

**Міхал Кучук жыве ў Маскве, працуе ў салоне, а кіно на беларускую перакладае на ўласнай кухні.**

У аўторак Міхал Кучук выклаў на сваёй старонцы «Укантакце» чарговы агучаны ім па-беларуску фільм «Габіт: нечаканае падарожжа». «Габіт — гэта хобіт. Але так бліжэй да арыгінальнага англійскага вымаўлення», — тлумачыць перакладчык карэспандэнту «НН».

Фільм паводле Толкіна — ужо трэцяя перакладзеная і агучаная Кучуком па-беларуску стужка. Раней былі такія сусветныя кінахіты, як «Мільянер з трушчобаў» і «Аватар». Якасць агучкі — нібы ў першых перакладных фільмах, якія круцілі на «відаках» у 90-я. Міхал родам з Баранавіч, ён жыве ў Маскве і працуе цырульнікам.

### Сабраліся і паехалі ў Маскву

«Мы з братам Алегам прыехалі ў Маскву гадоў пяць таму, — расказвае ён. — Проста сабраліся і паехалі. Я на цырульніка вучыўся ў Мінску, а ў Маскве толькі падвышаў кваліфікацыю. Я ўніверсальны цырульнік — і мужчынскі, і жаночы. Брат — таксама цырульнік, ён у Маскве вучыўся. Працуем з ім у салоне».

### Пачалося з «Караля Льва»

Адкуль цікавасць да перакладаў? «Першым фільмам, які захацелася перакласці, быў мульцік «Кароль Леў». Я ўпершыню глядзеў яго па-італьянску... Увогуле, за жыццё давялося шмат паездзіць, лёс так склаўся — жыў за мяжою. У асноўным, у скандынаўскіх краінах».

### Пазбягаць расейскіх словаў

Перакладаць фільмы на беларускую мову Міхал пачаў у Маскве. Спачатку быў спажывецкі інтарэс: «Пачаў шукаць фільмы па-беларуску, каб глядзець, а іх не было». 25-гадовы Міхал належыць да пакалення, якое вучылася ў беларускіх школах: «Я пайшоў у школу ў 94-м, тады яшчэ ўсе ішлі ў беларускамоўныя класы. Я і скончаў беларускі клас.

Перакладаючы, я стараюся пазбягаць словаў, якія ёсць і ў расейскай мове. Беларуская мова, я лічу, багатая на сінонімы. Навошта ўжываць расейскія словы? Напрыклад, гномаў я называю «чырвалюды». Гэта слова з дзяцінства — бацька такое ўжываў, памятаю. Бацька са мной гаварыў па-беларуску».

### Прашчур задушыў Кейстута

«Мне самому больш даспадобы гістарычныя стужкі, — кажа Міхал. — Але я разумею, што перакладаць карысней папулярнае». Ён цікавіцца гісторыяй, генеалогіяй. У Беларусі не так многа сем'яў з прозвішчам Кучук, і ўсе яны, сцвярджае Міхал, паходзяць ад першапродка, які браў удзел у забойстве вялікага князя Кейстута (1382). Сапраўды, у хроніках сярод іншых фігуруе Кучук, каморнік князя Ягайлы.

Што хацелася б перакласці «для сябе»? Міхал адказвае адразу: дакументальную стужку «Дом — спатканне з планетай» Яна Арцюс-Бертрана і Люка Бесона. Там апавядаецца пра 60 краін свету — па 5 хвілін на кожную.

### Заробкі маскоўскіх цырульнікаў

«Мы з братам здымаем кватэру, трохпакаёўку ў Падольску. Гэта электрычкай сорак хвілін да цэнтра Масквы. Каштуе трохпакаёўка 20 000 расейскіх рублёў у месяц (каля $640 — «НН»). Раней здымаў «аднушку» ў цэнтры Масквы за 25 000 рублёў (каля $800 — «НН»)». Так, Масква — дарагі горад. Ці хапае грошай на жыццё? «Жыць можна па-рознаму, — пасміхаецца Міхал. — Мне хапае. Зарабляю каля 2,5 тысячы даляраў у месяц.

Ці планую заставацца? Не, толькі ў Беларусь. Гэта пытанне часу. Знядаўна пачаў вяртацца да гэтага думкамі ледзь не штодня. Грошы — можна зарабіць у любым месцы, а душэўны спакой не ўсюды знойдзеш».

### Пра аўтарскія правы

«Калі я пераклаў «Аватар» і закінуў на Ютуб, відэа выдалілі з сайта, угледзеўшы ў ім парушэнне аўтарскіх правоў. Да «Габіта...» я дадаў тлумачэнне, што стужка перакладзеная не для камерцыйнага карыстання, а выключна ў адукацыйных мэтах, дзеля пашырэння ўжытку мовы. Калі ў адукацыйных мэтах — аўтарскія правы не парушаюцца.

Перакладзеныя стужкі мусяць быць толькі ў вольным доступе — гэта мой прынцып, — кажа Кучук. — Была прапанова студыйна запісацца, але чалавек тады ставіў умову, што фільм выйдзе нейкім абмежаваным накладам, дыскі будуць прадавацца. Я адразу сказаў «не».



### Тэхналогія

«Як адбываецца пераагучка? Я знайшоў сабе добры торэнт-сэрвіс, дзе фільмы выкладзеныя на мове арыгіналу. Спампоўваю. У мяне на пераклад 10 хвілінаў фільма ідзе гадзіна часу. Мяне ніхто не вучыў, я сам асвоіваў тэхналогію запісу, шукаў у інтэрнэце інфармацыю, з дапамогаю якіх праграм лепей запісваць гук. Праз інтэрнэт купіў мікрафон для студыйнага запісу... Пераагучваю фільмы на кухні. Зачыняюся, прашу брата, каб не заходзіў, стаўлю на планшэце фільм, сядаю ў навушніках, слухаю, пішу... Пасля зводжу разам гук і рух — і заліваю ў інтэрнэт».

### На падыходзе робат

«Наступны я хачу перакласці мульцік пра робата Vall-i. Так што чакайце».

Гутарыў Сяргей Мікулевіч

Сцісла

### Галаграма Крыжа Еўфрасінні

У Магілёўскім мастацкім музеі 15 красавіка выстаўлена ў пастаяннную экспазіцыю галаграфічная копія Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Трохмерную галаграфічную выяву наведнікі могуць убачыць у спецыяльным пакоі-сейфе з браніраванымі дзвярыма. Там ад 1928 да 1941 года знаходзіліся каштоўныя музейныя экспанаты, у тым ліку Крыж, які знік пасля вывазу ў Расію..

### Спявак-беларус выдаў у Польшчы другі альбом

Музыка, вядомы польскай публіцы як Gienek Loska, выдаў альбом пад назвай Dom. Першы альбом гурту Hazardzista выйшаў пры канцы 2011, трапіў у пяцёрку самых прадаваных альбомаў у Польшчы і атрымаў статус «залатога». Перад гэтым беларус стаў у Польшчы пераможцам музычнага конкурсу X-Factor. Генадзю Лоску 38 гадоў. Ён нарадзіўся ў Белаазёрску, на пачатку 90-х пераехаў у Варшаву. Да перамогі ў конкурсе зарабляў ігрой на вуліцах.

### Працяг «Галодных гульняў»

14 красавіка, падчас цырымоніі ўручэння прэмій MTV Movie Awards у Лос-Анджэлесе, адбылася прэм'ера трэйлера да фільма «Галодныя гульні: І ўспыхне полымя» (The Hunger Games: Catching Fire). Пастаноўкай займаецца Фрэнсіс Лоўрэнс («Канстанцін: Уладар цемры», «Я — легенда», «Вады сланам!»). Фільм выйдзе ў пракат у лістападзе 2013. Гэта экранізацыя аднайменнага рамана амерыканскай пісьменніцы Сюзан Колінз, другая кніга трылогіі. Гэта антыўтопія пра грамадства будучыні. Багатыя жыхары сталіцы трымаюць людзей з рабочых пасёлкаў у падпарадкаванні з дапамогай зброі і тэлебачання. Іх замбуючы тэлешоў, самае папулярнае з якіх — «Галодныя гульні». Яно накшталт «Апошняга героя», толькі пераможцу трэба сапраўды забіць усіх супернікаў.

СМ

Мова

## ТБМ запрашае на моўныя курсы

На бясплатнай аснове кожны ахвочы можа палепшыць сваё моўныя веды і практыку, удасканаліць веды па гісторыі і культуры Беларусі. Заняткі ла-дзяцца ў дзвюх узроставых групах: навучэнцы 7—8 класаў і 9—10 класаў. Выкладаюць кандыдаты і дактары навук. Глыбока вывучаюцца беларуская мова, гісторыя, літаратура. Як сведчаць першыя водгукі, дзецям вельмі цікава. Курсы працягнуцца яшчэ некалькі месяцаў.

Курсы ладзяцца ў мінскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) кожныя панядзелак і сераду.

# Жарлівыя каровы з падручніка па матэматыцы

Праблемы сучаснай адукацыі **хвалююць многіх.**

Гэта і нізкі ўзровень ведаў абітурыентаў, які выяўляецца пры здачы ЦТ, і мізэрныя заробкі настаўнікаў, і працоўныя/непрацоўныя суботы, і працягласць канікул ды многае іншае.

Зусім нядаўна і я сутыкнулася са школьнай праблемай, дакладней — праблемай са школьным падручнікам. Аднак усё па парадку. Мой сын вучыцца ў 4 класе адной з мінскіх школ. З настаўніцай нам вельмі пашанцавала. Яна заўсёды стараецца зацікавіць вучняў, знайсці цікавыя заданні, усё даступна растлумачыць, да кожнага мае індывідуальны падыход. Пра такіх кажуць: «Настаўнік ад Бога».

А вось якасць падручніка па матэматыцы вымусіла мяне да напісання дадзенай нататкі. Падбягае да мяне сын і кажа: «Мама, я правільна рашыў задачу, але атрымаўся няправільны адказ». «Як так?» — здзівілася я і разгарнула падручнік.

Умова задачы была наступнай: «На 100 кароў нарыхтавалі на зіму 1400 т кукурузнага сіласу і 800 т буракоў. Колькі тон усіх гэтых кармоў нарыхтавалі на адну карову?» («Матэматыка», падручнік для 4 класа агульнаадукацыйных установ з рускай моваю навучання; аўтары Т. М. Чабатарэўская, У. Л. Дрозд, А. А. Дрозд; с.71, №10). А нязгода сына выявілася ў наступным: «У адказе атрымліваецца, што на кожную карову нарыхтавалі 22 тоны кармоў. Ды такога проста не можа быць! Зіма працягваецца месяцаў пяць. Атрымліваецца, што за дзень карова з'ядае амаль 150 кг. У нас у вёсцы ў бабулі дзве каровы, дык і то ім столькі корму не носім!»

Сапраўды, няхай мне пакажуць карову, якая столькі з'есць за суткі. Прыйшлося мне тлумачыць, што гэта проста задача, што не трэба яе суадносіць з рэальнасцю. Сына



мае тлумачэнні не задаволілі. Ён яшчэ знаходзіцца ў тым веку, калі вераць кожнаму слову настаўніка, давяраюць свае сакрэты маме і лічаць, што ў падручніку пішуць толькі праўду. На жаль, вось так і прыходзяць расчараванні. А чаму б аўтарам крыху не задумацца, складаючы тую ці іншую задачу (гэта не адзінкавы прыклад)? Як правіла, дзеці з нецярпеннем чакаюць той пары, калі пойдуць у першы клас. Але з часам жаданне вучыцца ў многіх знікае. Магчыма і таму, што пры правільным рашэнні задачы атрымліваецца няправільны адказ...

**Софія Хаткевіч, Мінск**

## У які музей пайшлі б людзі як у храм?

Неяк на адной з нарад Лукашэнка абвясціў, што Беларусі патрэбны адмысловы музей Вялікай Айчыннай вайны, каб туды людзі шлі як у храм. Адважуся нагадаць, што музей і храм — розныя рэчы, і ходзяць туды людзі таксама з рознымі мэтамі.

Я, напрыклад, са сваімі сынамі, дочкамі, зяцямі, нявесткамі, унучкамі з задавальненнем наведаў бы наступныя музеі:

Грунвальдскай бітвы, з часу якой споўнілася больш за 600 гадоў, але гэтая дата ў Беларусі так і засталася незаўважанай.

Музей Аршанскай бітвы. 8 верасня 2014 будзе 500 гадоў з моманту бітвы. Але чыноўнікам гэтая дата не падабаецца.

Музей паўстання 1863—1864. У 2013 споўнілася 150 гадоў з пачатку вызвольнай барацьбы за нашу незалежнасць ад Расейскай каланізацыі. Але і гэта дата будзе замоўчана.

Музей БНР, якая абвесціла незалежнасць 25 сакавіка 1918. Пры ўспамінанні даты 25 Сакавіка ў чынавенства імгненна іклы вырастаюць памерам як у сланоў.

Музей Слуцкага збройнага чыну. Але хіба можа быць такі музей, калі нашчадкі тых, хто тапіў у крыві слуцкіх змагароў, сёння пры ўладзе.

Музей ленінска-сталінскага тэрору.

Нам, беларусам, ніяк нельга абысціся без музея «Нацыянальнай трагедыі», дзе былі б адлюстраваны падзеі трынаццацігадовай вайны 1654—1667, у якой была знішчана палова нашага насельніцтва.

А вось так званы музей ВАВ аніякага жадання наведваць зусім не будзе. Таму што там праўды будзе менш за палову.

**Мікола Канаховіч, Пружаны**

# Беларуская глыбіня. **Убогія духам**

Піша **Павел Севярынец.**



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Камеры «амерыканкі» падобныя да трунаў. Турма кругляя, памяшканні на коле, шырэй да акна, вузей да жалезных дзвярэй, і калі дранцвееш на нарах, гледзячы ў столь, нагамі на выхад, слухаеш глухое рэха і чуеш, як памірае чарговы дзень — раптоўны голас суседа вырывае цябе з містычнага одуму з сілаю ўваскрасення.

— Слухай, вось Пасха, Біблія, — гэта раскацісты барытон палкоўніка Ягоравіча, — узяўся за Евангелле і адразу ўпёрся... Што значыць *убогія духам?*

З дамавіны «амерыканкі» трапляеш на дно Пружаншчыны, у край забытай і занядбанай велічы, у колішнюю медсанчасць, а цяпер камендзу, поўную няшчасных асуджаных і іх змучаных ахоўнікаў з сумнымі вачыма, а пытанне пра «ўбогіх духам» аддаецца і аддаецца рэзам увушшу ўжо трэці Вялікі пост — і аднойчы трэба пагаварыць усур'ёз.

«Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае».

Хвілінку. Тут трэба ўчытацца яшчэ раз. «Шчаслівыя ўбогія духам...» Калі вы не імкнецеся хутчэй прабегчы вачыма і пракаўтнуць паміж салодкімі «шчаслівымі» і «Валадарствам Нябесным» у залацістым ззянні няёмкіх, недарэчных і ўрэшце проста абуральных «убогіх духам», калі вы запаволіце перахопленае сэрца і з намаганнем правернеце ў галаве менавіта гэтыя два ключавыя словы — вы здзейсніце самае глыбокае пагружэнне і ў сутнасць хрысціянства, і ў змест беларускасці.

Хочацца ж быць «духоўна багатым», ці не так? Ці не гэтага ад нас вымагаюць гісторыя, цывілізацыя, школа, бацькі... і, напэўна, Бог?

«Шчаслівыя ўбогія духам, — першае, што кажа Ісус у Нагорнай казані, сэрцы Евангелля, — бо іх ёсць Валадарства Нябеснае».

Беларуская *ўбогасць* — найрадчэйшы феномен у Еўропе. Агледземся вакол. Расейцы — шырокія душы, але ганарлівыя. Украінцы — эх, казакі, ды ганарлівыя! Палякі — чаго і казаць — шляхта. Нават балты, нетаропкія, павольныя — поўныя ўнутранага гонару.

А беларусы... гэта беларусы.

Нежыццёвасць нацыянальнай пыхі, крайняя кволасць адасабленчых рэфлексаў кругом у свеце тоесны дыягназу: народ не жылец.

Але Ісус кажа: шчаслівыя...

Насамрэч у сённяшнім разгубленым, сырым, паўмёртвым стане беларускай нацыянальнай свядомасці нічога *самакаштоўнага* няма. Галоўнае — пад рабскай падбітасцю, халуйствам, ніякавасцю ўгледзець першапачатковы евангельскі падмурак, глыбокі, асноватворны дар Бога беларусам.

Убогасць духу.

Адсутнасць ганарлівай крыклівасці, ціхая моц прыстойнасці, пакора перад Богам, прыроджаная сціпласць, здольнасць з любоўю аддаваць *сваё* бліжняму, простая праўдзівасць і чысціня, унутраная, а не паказная, свабода, ахвярная міласэрнасць — вось няўбогасць духае Нагорная казань у Беларусі.

Таму сённяшні беларус баіцца быць беларусам. Куды прасцей рвануць на грудзях славянскія карані — «ну ты чё как нерусский!» — або спасласца на бабку-каталічку ды атрымаць арту паляка, ды хоць выкалупаць нямецкае гучанне ў беларуска-габрэйскіх, праз ідыш, прозвішчах, каб быць *як усе*.

І як жа прыемна бывае, хай сабе і тут, на сметніку чалавечым, смачна схаркнуць, плюнуць на ўсіх і ўсё, пацягнуцца ўсмак, расправіць плечы ды адчуць сябе гаспадаром жыцця...

Хай грамадзянін начальнік дастане вантробы адным позіркам, хай прадавачка скрывіць вусны, бытцам твае зашмальцаваныя грошы даводзіцца каштаваць на смак, хай бывалы зэк увыліць выспятка навенькаму і ржэ ўся хата — затое пры выпадку ты сам, змерыўшы якоганебудзь мужычка вачыма, грэбліва тыцкаеш пальцам: чуеш, ты...

І вось мы гніем і гінем ад задушлівасці ўласнага духу, што распірае знутры.

А можа, яшчэ і пашкадаваць сябе?

Беларусы, *бедненькія...*

Нам так часта шкада сябе — хоць плач, вакол так цяжка, нам так дасталося, як было балюча, мы столькі пацярпелі... Яшчэ адна з праяваў бяздоннага, невынішчальнага сябелюбства, енк параненай пыхі, якой палудзенны бес закусвае на абед.

Не, убогасць духу не ў гэтым. Глыбей.

Адчай актывістаў, што прыязджаюць спустошаныя ў госці і разводзяць рукамі — нічога не ўдаецца, людзі... Затурканасць калгаснікаў, асуджаных за п'янкі і няшчасныя выпадкі на працы, з якіх кпяць нават у камендзе... Маўчанне жанчынак, каторыя гадамі, зранку да вечара, уручную перабіраюць бульбу... Нешта такое роднае, але нераскрытае, недагаворанае, безнадзейнае...

Сённяшняя наша ўбогасць самасвядомасці захавала ад хрысціянскай убогасці духу толькі форму. Пад беларускай пакорай і маўклівасцю 2013 года цэлае балота на сем смяротных грахоў углыб.

Дык што — склаўшы ручкі, тонем? Не.

Але што рабіць, калі рабіць і як рабіць, можна ясна зразумець толькі тады, калі прызнацца самому сабе ў сваёй нішчымнасці перад Богам.

Яна тут жа, побач: непрыкметная соль тутэйшых вернікаў, ціхае святло настаўнікаў беларускай, сарамлівая сумленнасць тэхнароў, нечаканая дапамога людзей, якія ўзнікаюць у тваім жыцці на гадзінудзве і якім ты ніколі не зможаш адплаціць за дабрыню; пранізлівыя лісты падтрымкі без зваротнага адрасу; грошы, перададзеныя з рук у рукі ў камендзу — «каму-небудзь, хто там мае патрэбу», і лёгкае, бытцам ветрыкам здзьмула, прабачэнне тваёй уласнай рэзкасці і раздражнення — усё гэта сапраўднае беларускае багацце дзеля Хрыста.

Дык што ж аддаць беларусу, каб увайсці ў Валадарства Нябеснае? Адчуванне, выпушчанае ў свет яшчэ немаўлём, з першым крыкам нашага ўлюбёнага *якання*: Я самы галоўны, і гэта іншыя павінныя, а Я — хачу. Паміраючы для сябе, сваіх страхаў, прагненняў, разлікаў, грахоў — ажываеш для Бога, і раптам ачомваешся: жыве Беларусь.

Беларускі асабісты эгаізм, звыродлівы, скурчаны, скончаны, і наша нацыянальнае бяссілле — два бакі аднаго медаля. Беларуская супольная моц, свядомасць і салідарнасць зробяцца маналітам толькі тады, калі беларус адмовіцца ад надзімання сябе, любімага, і адкрыецца Убогаму, Які палюбіў яго больш за ўсіх.

Найвялікшы парадокс беларускай нацыянальнай ідэі: выракацца сябе, каб атрымаць паўнату ўсяго. Пазбавіцца пыхі і даць выявіцца Хрысту — каб усвядоміць сябе нацыяй.

Хто́ю, каму кідае выклік свет з ягоным багаццем, гонарам, сілаю, раскошай, гвалтам ды абыякавасцю, не можа супрацьпаставіць свету самога сябе і не пацярпець паразы. Тут патрэбны Нехта большы за свет.

Часам даводзіцца патрацяць цэлае жыццё, каб нарэшце пранялo да дрыжыкаў: як голымі і ўбогімі прыйшлі мы на гэтую зямлю — так голымі і ўбогімі з яе пой-дзем. І шчаслівы, сапраўды шчаслівы той, хто зразумее: няма ў беларуса, вандроўніка і жабрака ў вечнасці, нікога і нічога, акрамя Усёмагутнага і Усёдаравальнага Збаўцы, Чый белы з крывавым следам сцяг успыхвае з труны як запрашэнне ў Валадарства Нябеснае:

— Хрыстос уваскрос!

*Куплін*

**Як голымі і ўбогімі прыйшлі мы на гэтую зямлю — так голымі і ўбогімі з яе пойдзем »**

# Навошта беларусам прозвішчы

Нашы прозвішчы на троста гадоў старэйшыя за расійскія. **Як яны ўзніклі?**

Той, каму давялося расці на вёсцы, памятае: вясковыя роды называлі па мянушках. Калі ў вёсцы дванаццаць сем'яў Герасімчыкаў, мянушкі — найпрасцейшы сродак указаць на патрэбнага чалавека. Яны даваліся найчасцей ад імені дзеда або прадзеда. Адны Герасімчыкі маглі быць Казімірчыкамі, другія — Апанасавымі, а трэція — Адамавымі...

З такіх родавых мянушак 500 гадоў таму фармаваліся прозвішчы. Як? Гэтым займаліся бюракраты.

### Шляхта прагнула прозвішчаў

Першымі ў канцы XV ст. прозвішчы займелі баяры-шляхта, піша гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч. Спачатку яны не былі сталымі. Сыны баярына Грынькі рабіліся Грынковічамі, але дзеці ягонага сына Багдана ўжо былі Багданавымі Грынковічамі. Яшчэ праз пакаленне пра Грыньку маглі і забыцца,ператварыўшыся ў Багдановічаў...

Але Багдановічам цяжка было пацвердзіць свае правы на сяло, якое вялікі князь даў іх дзядам-Грынковічам. Таму чым больш дзяржаўная канцылярыя стварала папер-прывілеяў, тым важней для шляхціца было зафіксаваць сваё прозвішча раз і назаўжды.

### Сінонім залежнасці

Сяляне ж яшчэ ў пачатку XVI ст. прозвішчаў не мелі. Каму справа да селяніна, які жыў на хутары, мог вольна перамяшчацца па краі і быў эканамічна незалежным? Прозвішчы сялянам пачалі даваць кантрольныя органы ВКЛ. Адбывалася гэта ў сярэдзіне XVI ст., падчас Валочнай памеры 1557 г. — гіганцкай аграрнай рэформы. Сялян «прымацоўвалі» да зямлі, высялялі ў вялікія вёскі і перапісвалі, дадаючы да імені імя па бацьку або мянушку, якія цяпер раз і назаўжды рабіліся прозвішчамі.

### Лук'яновічы і Бабровічы

Тыя з іх, што паходзяць ад імя продка, называюць патранімічнымі. Большасць іх у беларусаў маюць суфікс -іч. Вось колькі іх у адным Попісе Гродзенскай каралеўскай эканоміі XVI ст.: Лук'яновіч, Івановіч, Ляўковіч, Амельяновіч, Хоміч, Навумовіч, Жуковіч, Васілевіч, Паласковіч, Міцкевіч, Козіч, Ячкевіч, Дашкевіч, Грынкевіч, Ламановіч, Зімаковіч, Бабровіч...

**Беларускія прозвішчы на троста гадоў старэйшыя за расійскія**

У Масковіі прозвішча да XVI ст. было прывілеем князёў і баяраў. А прозвішча на -іч давалася толькі з дазволу вялікага князя. У «Тысяцкай кнізе» 1550 на тысячу чалавек такія прозвішчы мелі толькі 28. Рэшта прозвішчаў — на -оў або на —ін. У Беларусі такога не было. У XVI—XVII стагоддзях прозвішчы пачалі з'яўляцца ў асяроддзі дваран. У XVII—XVIII стст. — у гараджан, у к.XVIII — п.XIX стст. — духавенства. Сяляне не мелі прозвішчаў да сярэдзіны XIX ст.




«Прозвішчы на -іч — адзнака славянскага паходжання, — кажа доктар філалагічных навук Валянціна Лемцюгова. — Яны характэрныя не толькі для беларусаў, але і для заходніх і паўднёвых славян. У беларусаў суфікс -іч не меў саслоўных абмежаванняў, а ў Расіі прозвішчы на -іч атрымлівалі толькі прадстаўнікі вышэйшых колаў грамадства з царскага дазволу».

Таксама да групы патранімічных прозвішчаў, найбольшай і найстаражытнейшай, адносяцца тыя, што сканчаюцца на -ук (-юк), -эня (-еня), -энка (глядзі мапу).

### Юркойці і Даўгялы

У беларускіх прозвішчах адбілася тысячагадовае суіснаванне славянаў з балтамі: часта славянскі корань спалучаўся з балцкім суфіксам — як у прозвішчы Даўгяла (корань «доўгі») ці Юркойць (ад Юркі). А вось Гедройць — цалкам балцкае найменне, якое пазначае таго, хто нечым праславіўся.

### Берманы і Дзерманы

Уплывы маглі быць не толькі балцкія. Сярод экзатычных — нямецкія. Часцяком нямецкі пан-каланіст запісваў усіх сваіх сялянаў уласным прозвішчам, каб абазначыць гэтым права на ўладанне імі. Так з'явіліся Берманы, Дзерманы. Магчыма, так пераразджаліся і некаторыя старыя балцкія прозвішчы (Шэйман).



**Андрэй Вашкевіч: Першымі прозвішчы атрымалі баяры-шляхта.**

### Нелюбы і Пазнякі

Многія прозвішчы паходзілі ад мянушак і дахрысціянскіх імёнаў.

Людзей тады называлі проста. Нарадзіўся апошнім у сям'і — будзеш Пазняк.

Бывалі імёны татэмныя — ад звера ці дрэва, якому племя пакланялася (так, у летапісах трапляюцца Воўк, Воўчы Хвост), былі імёны ахоўныя, пакліканыя «падмануць» злыя сілы — Нелюб (каб любілі), Дыхля (каб здаровы быў).

Царква, выцясняючы паганства, змушала замяняць старыя імёны на хрысціянскія (у летапісах сустракаем прыклад літоўскіх князёў — Вітаўт рабіўся Аляксандрам, Ягайла — Уладзіславам).

### Скарыны і Гоўшы

Дый Скарына — не ад скарынкі, кажа прафесар Лемцюгова, а ад *Скарына* — скарочанага старажытнага імя, тыпу Скараслаў, Скарагост, Скаравой, Скарамір. Частка прозвішчаў — такія добра забытыя імёны, накшталт Гоўша, Дымша.

Пераходзілі ў прозвішчы і скарочаныя формы: Мечык, Віліч, Стасік... Нават такое, здавалася б, відавочнае прозвішча Трус — скарочанае ад Пятро, Пятрусь. Місюта, аказваецца, — размоўны варыянт царкоўнага імя Міхаіл. Масу варыянтаў мае Аляксандр. Самыя экзатычныя з іх — Шаша, Шоша.

Але Валянціна Лемцюгова перасцерагае: дасльданне гісторыі кожнага прозвішча вымагае індывідуальнага падыходу, міждысцыплінарнага даследавання. Верыць у сямейныя легенды і тлумачэнні, якія, здавалася б, ляжаць на паверхні — небяспечна.

Тут як з назвамі населеных пунктаў: Шапчыцы — не ад шапкі, знойдзенай там, а ад нашчадкаў чалавека з такой мянушкай. Пількаўшчына — не ад пілаў, якія ламаліся, а ад імя ўласніка зямлі, якога звалі Пілька, Піліп.

### Кухты і Стэльмахі

Наступная пасля патранімічных па колькасці група прозвішчаў з Попісу Гродзенскай каралеўскай эканоміі — ад асаблівасцяў вагляду: Коўш, Чарэпка, Казелак... Безумоўна, не трэба абмінаць і прозвішчы, звязаныя з заняткам чалавека. У XVI ст. іх працэнт быў невялікі, але з часам Стэльмахі (у «Слоўніку паўночназаходняй Беларусі і яе парганічча» Стэльмах — той, хто робіць калёсы, калёснік), Рымарчукі (рабілі вупраж), Бондары (выраблялі цэбры), Мясніковічы (былі рубшчыкамі мяса) з'яўляюцца ўсё часцей і часцей, адзначае А.Вашкевіч.

Тое самае паходжанне ў прозвішча Кухто, лічыць Валянціна Лемцюгова. Кухта — гэта памочнік кухара. А націск на -о ў такіх прозвішчах з'явіўся ад пазнейшага, часоў Расійскай імперыі, імкнення надаць ім «благозвучность». Тады з'явіліся Лапато, Капусто, Лапо, Дынько і ім падобныя.

Цікавая гісторыя прозвішчаЦароў. Адкуль у Беларусі «цар»? Аказваецца, на Магілёўшчыне так называлі старшага валачобніка, які меў упрыгожаную бліскучую шапку.

### Рабіновічы з'явіліся апошнімі

Найпазней жа ў Беларусі, адзначае А.Вашкевіч, прозвішчы з'явіліся ў габрэяў-гараджан. Улады Рэчы Паспалітай не ўмешваліся ў ўнутрыцё габрэйскай грамады, адносіны з ёю абмяжоўваліся атрыманнем падаткаў, якія збіраў сам кагал. Напрыклад, з дванаццаці габрэяў, якія мелі пляцы ў 1704 г. у мястэчку Сапоцкін, прозвішчы мелі толькі шасцёра. Прычым прозвішчы яўна паходзілі ад мянушак, звязаных з выглядам, — Іцка Вясло або Азік Чарток. А калі царская адміністрацыя пачала браць габрэяў у рэкруты, забіраць дзяцей у кантаністы, пачалося прымусовае наданне беларускім габрэям прозвішчаў, прычым часта па той самай схеме, што і ў беларускіх сялян за троста гадоў да таго. Так з'явіліся Абрамовічы, Іцкавічы, Абковічы або Зельманавічы. А Рыўкіны, Соркіны, Рохліны — па імёнах жанчын, маці. У беларусаў такое здаралася радзей, а вось ва ўкраінцаў — даволі часта: Андрусішын, Васілішын, Стэфанішын, Байчышын (ад Андрусіха, Васіліха, Стэфаніха, Бойчыха, г.зн. жонка, удава Андруся, Васіля...).

Нашыя прозвішчы — каштоўны скарб. Ім як мінімум 450 гадоў. А гэта значыць, што насілі іх да нас дзясяткі і нават сотні тысяч людзей, і трэба быць вартымі іх памяці.

**Падрыхтаваў Сяргей Мікулевіч**



**Валянціна Лемцюгова: Прозвішчы на -іч — адзнака славянскага паходжання.**

**Рэха прыгону ці поступ прагрэсу?**

Нашыя прозвішчы — вынік індывідуальнага прыгону, які запанаваў на землях ВКЛ з часоў Валочнай памеры, — лічыць Андрэй Вашкевіч. — Там, дзе не было індывідуальнай залежнасці ад пана, не было патрэбы ў прозвішчах. Яскравы прыклад — балгары, у якіх толькі ў сярэдзіне XX ст. замацаваліся прозвішчы. У захопленай асманамі Балгарыі селянін быў вольны, арандаваў зямлю ў дзяржавы і плаціў падатак — харадж. Патрэбы замацоўваць прозвішчы не было, і яго функцыі выконвала імя па бацьку. Іван Кольеў быў сынам Колі, а ўжо сын Івана быў не Кольевым, а Іванавым. Да сёння ў Еўропе захавалася краіна з сістэмай прозвішчаў, утвораных ад імя бацькі, — Ісландыя, дзе ад часоў засялення вікінгамі панавала дэмакратыя.

Але як у такім выпадку быць з Расіяй, дзе, сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы, сялянскія прозвішчы замацаваліся толькі ў XIX ст., а прыгон быў яшчэ больш жорсткі, чым у ВКЛ?

## ФУТБОЛ

### 5 тур

**21—22 красавіка на стадыёнах краіны** пройдуць матчы чэмпіяната Беларусі.

**У суботу** сустракаюцца:
«Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама» (Мінск) — цэнтральны матч тура;
БАТЭ (Барысаў) — «Дынама» (Брэст);
«Дняпро» (Магілёў) — «Белшына» (Бабруйск);
«Мінск» — «Нёман» (Гродна).

**У нядзелю:**
«Гомель» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Славія» (Мазыр).

## ІМПРЭЗЫ

### Несапраўдны тэатр Пане Каханку

**19 красавіка а 19-й у Мінску** музейная кавярня «Арт-дворык» Мастацкага музея запрашае на інтэрактыўную праграму «Несапраўдны тэатр Пане Каханку» ад творчага калектыву «Майстроўня ўражанняў». Вы пачуеце баечкі беларускага Мюнхгаўзэна, паспрабуеце сцэнічнае і рэальнае фехтаванне, развучыце танцавальныя па…

## КАНЦЭРТЫ

### Паліна Рэспубліка

**25 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — спявае Паліна Рэспубліка.

### Уладзімір Пугач

**18 красавіка ў Re:Public** прэзентацыя аўтарскага праекта вакаліста J-mors Уладзіміра Пугача «Нафта». Пачатак а 19-й.

### Дударскі фэст

**28 красавіка а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Дударскі фэст. Бяруць удзел: «Стары Ольса», Testamentum terrae, Pawa, Irdorath, «Літы талер».

### Маланка Аркестр

**18 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — падваротна-стадыённы «Маланка Аркестр».

### The UNB

**19 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — рок-гурт The UNB.

### Мутнаевока

**26 красавіка а 19-й у Моладзевым тэатры эстрады** — «Мутнаевока».

### АГА

**27 красавіка а 17-й у музеі Азгура (вул.Азгура, 8)** — фестываль імправізацыйнай музыкі АГА. Бяруць удзел «Сонца-кветкі», «Князь Мышкін», «Улад Бубен», Generation Skweee, Cholotrope.

### Мандалінісіма

**17 красавіка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — аўтарскі канцэрт кампазітара і мандалініста Вінсэнта Бір-Дземандзера (Францыя).

## ВЫСТАВЫ

### Скарбы шляхецкіх архіваў

**З 18 красавіка па 12 мая ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Скарбы шляхецкіх архіваў» — з прыватнага збору Ігара Сурмачэўскага.

### Пуцін з воску

**Да 12 чэрвеня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Гістарычная мазаіка» — сумесны праект з музеем гісторыі Санкт-Пецярбурга «Петрапаўлаўская крэпасць». На экспазіцыі паказаныя васковыя фігуры дзяржаўных, палітычных дзеячаў Расіі ад Пятра I і да Уладзіміра Пуціна.

### Кніжная спадчына Радзівілаў

**Да 12 мая ў Нясвіжскім палацавым ансамблі** працуе выстава «Кніжная спадчына Радзівілаў». 90 рэдкіх кніг з княжацкай бібліятэкі на некаторы час вернуцца ў сцены былой рэзідэнцыі «некаранаваных каралёў». Прынцып размяшчэння кніг на выставе застаўся нязменным з тых самых часоў, як у XVI стагоддзі ўпершыню згадваецца бібліятэка Радзівілаў. 7 вітрын уяўляюць 7 аддзелаў з найбольш яркімі асобнікамі кніг Нясвіжскай бібліятэкі па гісторыі, тэалогіі, праву і навуках, літаратуры, старадрукаваных выданняў Нясвіжскай друкарні XVIII стагоддзя, творы Радзівілаў і пра Радзівілаў.

### Георгій Скрыпнічэнка

**Да 20 красавіка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Георгій Скрыпнічэнка. Графіка». У графіцы Георгія Скрыпнічэнкі ёсць не толькі звышрацыянальная чуласць, але надзвычай тонкае валоданне майстэрствам намёку, каштоўнасць аўтарскай мастацкай мовы — у «недагаворанасці», «схаваных сэнсах», што надаюць яго работам шматзначнасць.

## ТЭАТРЫ

### 18 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 19 красавіка

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 20 красавіка

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 21 красавіка

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 23 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 24 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 25 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 26 красавіка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгэдзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 27 красавіка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 28 красавіка

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

## КІНО

### «Аблівіён»

**Жанр:** баявік, прыгоды, фантастыка
**Рэжысёр:** Джозэф Касінскі
**Акцёры:** Морган Фрыман, Вольга Курыленка, Том Круз, Мікалай Костэр-Вальдау, Зоі Бэл

У пракаце да: 15 мая 2013
ЗША, 2013 г., 135 хв.

Паверхня зямлі для жыцця больш не прыдатная, людзі жывуць над аблокамі, але некаторыя з іх працягваюць рабіць вылазкі ўніз, дзе, нягледзячы на змененыя да непазнавальнасці ландшафты, усё яшчэ можна знайсці шмат карысных рэчаў.
Галоўны герой — былы салдат па імені Джэк, які займаецца рамонтам лятальных апаратаў, на якіх патрулюецца зямная паверхня. Аднойчы Джэк выяўляе касмічны карабель, які пацярпеў крушэнне, а ў ім — жанчыну. Абудзіўшы спячую прыгажуню, Джэк забірае яе да сябе дадому — на неба. Высвятляецца, што яна — зямлянка, якая вярнулася са шматгадовай экспедыцыі на Марс. Гутарка з ёй спараджае вялікую колькасць пытанняў, на якія герою проста неабходна знайсці адказы.






### Фэст экскурсаводаў

**Пяты год запар у Беларусі праходзіць «Фэст экскурсаводаў».** Мерапрыемства прымеркавана да Міжнароднага дня помнікаў і мясцінаў. «Фэст экскурсаводаў» уяўляе сабой шэраг бясплатных экскурсій па новых, небанальных маршрутах. Толькі ў Мінску будзе больш за 40 экскурсій. Будуць экскурсіі і ў абласных і раённых цэнтрах. 20-21 красавіка. Больш падрабязная інфармацыя на vk.com/festekskursavodau і nn.by.

# 10 новых турыстычных маршрутаў па Беларусі

**Паўстанцы, напалеонаўскія жаўнеры, служба ў Чырвонай Арміі.**

На выставе «Адпачынак-2013» адной з самых важных падзей стала прэзентацыя новых турыстычных маршрутаў. Некаторыя з іх ужо функцыянуюць у выглядзе асобных экскурсійных праграм, некаторыя толькі чакаюць зацікаўленых турфірм для супрацоўніцтва.

### 1. «Па слядах напалеонаўскіх скарбаў»

Распрацоўшчык — «Кола падарожжаў». Экскурсія з элементамі анімацыі па памятных месцах вайны 1812 года. Па словах гісторыка Ігара Груцо, які складаў маршрут, «1812 год — сусветна вядомы брэнд, а турыстычны патэнцыял Бярэзіны ў нас слаба выкарыстоўваецца». Экскурсіі плануецца пачаць у маі. Прыкладны кошт — 250 тысячаў з чалавека.

### 2. «У маёнтку мінскага ваяводы»

Распрацоўшчык — «Сям'я — Яднанне — Айчына». Гэты маршрут прывядзе ў вёску Сёмкава (Мінскі раён), дзе жыў апошні мінскі ваявода Адам Хмара і дзе захаваліся рэшткі яго палаца. У Сёмкаве пэўны час жыў і пісаў Якуб Колас, на панскім бровары працаваў Янка Купала, а ў мясцовай царкве пабраліся шлюбам бацькі Максіма Багдановіча.

### 3. «Адзін дзень у войску»

Распрацоўшчык — «Лінія Сталіна». Карпаратыўная праграма, якая дазваляе адчуць сябе жаўнерам Чырвонай Арміі 1930-х гадоў. Удзельнікам дасылаюць позвы, з месца збору іх дастаўляюць ў адмыслова пабудаваныя казармы. Там навабранцы будуць вучыць падшываць каўнерыкі, намотваць анучы. Не абыдзецца без рукапашнага бою, стралковай падрыхтоўкі і нарадаў па кухні. Распрацоўшчыкі заяўляюць, што праграма была паспяхова апрабаваная на дзвюх групах японцаў. Цана на «Адзін дзень у войску» пачынаецца ад $40 даляраў у дзень з чалавека.

### 4. «Гітлер капут!»

Распрацоўшчык — «Лінія Сталіна». Зноўку ж вы чырвонаармеец, які едзе ў мотакалоне (такая опцыя даражэйшая) ці ідзе ў пешым шэрагу. Зразумела, неўзабаве на вас нападаюць немцы, але Чырвоная Армія гераічна адбівае атаку. Пасля перамоўжцаў чакаюць франтавыя 100 грамаў і кацялок кашы. Дарэчы, можна ваяваць і за немцаў. Цана разлічваецца ў залежнасці ад памеру групы і насычанасці праграмы.

### 5. «Дарогамі паўстанцаў»

Распрацоўшчык — «Краіна замкаў». Аднадзённая экскурсія па маршруце Малое Мажэйкава — Ішчална — Галавічполле — Васілішкі — Пеляса — Нача — Шаўры — Ліда правядзе турыстаў па ключавых месцах дзеяння паўстанцкага атрада Людовіка Нарбута, які змагаўся ў 1863. Цана экскурсіі: 230 тысяч для дарослых і 210 тысяч для дзяцей да 14 гадоў.

### 6. «Шляхамі 1863 года»

Распрацоўшчык — «Дэльфін груп». На выбар прапануецца два маршруты: па Брэстчыне і па Гродзеншчыне. Падчас вандроўкі экскурсаводы будуць апранутыя ў строі паўстанцаў Каліноўскага, што паспрыяе большаму пагружэнню ў атмасферу эпохі. Цана на падарожжа дастаткова дэмакратычная — 210 тысяч па Брэстчыне і 235 тысяч па Гродзеншчыне. Дзецям — зніжкі.



**Эксурсаводы правядуць вандроўку па мясцінах паўстання ў адзенні таго часу.**

### 7. «Вялікая культурная гісторыя і Вялікая вайсковая слава Віцебшчыны»

Распрацоўшчык — «РайдаТур». Экскурсія-анімацыя па схеме «дзень+ноч+дзень» па Расонскім і Полацкім раёнах Віцебскай вобласці. Гэта своеасаблівы «вінегрэт» на аматара, але дастаткова насычаны: у экскурсіі задзейнічаны фальклорны калектыў, партызаны, а затым — сярэднявечныя рыцары. У праграме таксама прадугледжана дэгустацыя нацыянальных беларускіх страў, жывога піва ды квасу. Экскурсія для груп. Цана: 1 мільён 100 тысячаў з чалавека.

### 8. «Мухавэцька кумора»

Распрацоўшчык — Грамадскі савет па аграэкатурызме Кобрынскага раёна. «Мухавэцька кумора» прапануе экалагічны маршрут уздоўж ракі Мухавец. Маршрут разлічаны на некалькі дзён, і плануецца, што турысты пройдуць яго пешшу, на веласіпедах, на конях ці на лодках. Падчас экскурсіі, акрамя гістарычных славутасцяў, плануецца завярнуць і на страусіную ферму, і ў кобрынскі аквапарк. Праграма ўключае ў сябе тры маршруты цаною ад 75 да 90 даляраў з чалавека.

### 9. «Вяртанне дадому»

Распрацоўшчык — Вера Савіна. Гэты турыстычны маршрут вядзе ў вёску Старыя Васілішкі, на радзіму вядомага польскага музыкі, паэта і кампазітара Чэслава Немена, дзе ён пражыў першыя 20 гадоў жыцця. У вёсцы існуе музей Чэслава Немена.

### 10. «Скарбы літоўскага памежжа»

Распрацоўшчыкі — Наталля Марозава і Ірына Коваль. Аднадзённая экскурсійная праграма па памежных раёнах Гродзенскай вобласці дасць магчымасць убачыць не адну гістарычную славутасць тых мясцін.

**Кірыла Хілько**

# Туфлі мадэльныя за 50 тысяч? — «Калі ласка!»

**У цэнтры Мінска працуе першая ў краіне дабрачынная крама.**

Калі вы даўно марылі разгрузіць шафу і паліцы ад непатрэбных рэчаў, вам — у «Калі ласка!». Заадно дапаможаце бяздомнікам, сіротам ды бедным сем'ям. «Калі ласка» — першая ў нашай краіне дабрачынная крама, ці чарыцішоп.

Як гэта працуе? Вы аддаяце ў дар краме непатрэбныя рэчы — вопратку, кнігі, посуд. А стваральніцы «Калі ласка» — Алеся Пчолка, Ганна Леванкова і Вольга Качура — перабяруць іх, дэзінфекуюць і перададуць дабрачынным арганізацыям.

Частка рэчаў застанецца ў краме. Грошы, атрыманыя ад іх продажу, пакрыюць выдаткі на арэнду, падаткі, «камуналку» і ў перспектыве — заробак прадаўца.

Пры гэтым максімальная цана любой рэчы ў краме не перавысіць 200 тысяч рублёў. У гэтым мы пераканаліся на ўласныя вочы: амаль новы мужчынскі пінжак, туфлі на шпільках — усё па 50 тысяч! Налятай — разбірай. Як бонус — адчуванне, што прыносіш карысць грамадству.

Уся праца вядзецца на валанцёрскіх пачатках. «Дапамагаць іншым — гэта натуральна», — кажа адна з ўдзельніц праекта, Ганна Леванкова.

Зразумела, цягнуць усю працу тром маладым дзяўчынам няпроста. Таму прапановы з боку патэнцыйных валанцёраў вітаюцца. Асабліва трэба дапамога тых, хто можа на аўто адвезці рэчы ў дзіцячыя дамы ды іншыя арганізацыі.

Мы завіталі ў «Калі ласка» двойчы: за дзень да адкрыцця і ў першы дзень працы. Трэба сказаць, што знайсці краму няпроста, хоць месціцца яна ў самым цэнтры горада. Мінуўшы будку са злым сабакам (праўда, на зваротнай дарозе ён ужо не брахаў), упіраемся ў прамысловы будынак. Знаходзім апошні пад'езд. Падымаемся па лесвіцы з абшарпанымі сценамі на другі паверх. Як высветлілася, «Калі ласка» знаходзіцца ў так званым «крэатыўным кластары ме100» («Месца»). Гэта, бадай што, райскі куток для сталічных хіпстараў.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Апроч адзення, прапануецца галантарэя і кнігі.**

**Аксана Рудовіч**

**Адрас крамы «Калі ласка»**

г. Мінск, пр. Незалежнасці, 58 корп.6, 2 паверх. Сайт — http://kalilaska.org

## Сціісла

### Снег трымаўся рэкордна доўга

У Мінску 15 красавіка «афіцыйна» сышло снежнае пакрыццё. Так позна снег праляжаў толькі ў 1958. Ён пратрымаўся ажно з пачатку снежня і за ўсю зіму не растаяў ні разу.

### У Беларусі адкрываецца першы фірмовы салон Samsung

Ён запрацуе ў Гродне 19 красавіка на тэрыторыі гандлёвага цэнтра «Алмі». Сёлета крамы маркуецца адкрыць і ў іншых гарадах краіны, уключна з Мінскам. У салонах будуць даступныя смартфоны, планшэты, тэлевізары, фотаапараты і арыгінальныя аксесуары вытворчасці Samsung.

### На мінскай кальцавой усталююць відэакамеры

Яны будуць адсочваць парушальнікаў правілаў дарожнага руху, у прыватнасці тых, хто перавышае хуткасць. Улетку будуць усталяваныя пяць стацыянарных камер — каля скрыжавання з праспектамі Незалежнасці і Дзяржынскага, вуліцамі Скарыны, Машынабудаўнікоў і Цімірязева.

**ЯМ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Мінчукі прынеслі тысячы кветак да помніка ахвярам тэракта ў метро 11 красавіка. На фота: старая жанчына, якая страціла ў тэракце дзіця, кепска бачыць, шукае родныя літары навобмацак.**



**81-гадовы ганаровы арцыбіскуп англіканскай царквы Дэсмонд Туту танчыць з ансамблем Кейптаўнскай оперы ў саборы Святога Юр'я ў сталіцы ПАР з нагоды атрымання ім Тэмплтонаўскай прэміі ($1,7 млн). Туту адыграў адну з ключавых роляў у скасаванні апартэіду ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы ў канцы ХХ стагоддзя.**


HORKI.INFO

**У сталіцы «Дажынак-2012» — Горках — ізноў правалілася плітка, утварылася глыбокая яма. Абвал здарыўся каля амфітэатра, які ўзвялі адмыслова да «Дажынак».**



**У Польшчы ў Чэнстахове адбылося ўрачыстае адкрыццё найбуйнейшай у свеце статуі Папы Яна Паўла ІІ.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Бландзінка скардзіцца сяброўцы:

— У мяне камп'ютар не бачыць прынтар, я ўжо і манітор на яго павярнула, а ён усё роўна піша, што не бачыць. Што мне рабіць?

— Пальцам пакажы.

* * *

Сцюардэса так толкам нічога і не сказала... Толькі моўчкі прыкурыла ад палаючых дзвярэй.

* * *

Дарагія бацькі, вучыце дзяцей есці левай рукой.

Потым, седзячы за камп'ютарам, яны вам дзякуй скажуць.

* * *

Жонкі членаў выбарчых камісій не імітуюць аргазм, яны яго фальсіфікуюць.

* * *

Пры барацьбе бабра з аслом заўсёды перамагае бабро.

* * *

75% не ведаюць матэматыкі. Добра, што я сярод астатніх 18%.

* * *

Загарадны катэдж начальніка тралейбуснага дэпо лёгка можна знайсці па правадах.

* * *

– Мы расстаёмся!

– Мог бы хоць прыгожа неяк сказаць.

– Мяне задзяўбло тануць у тваіх вачах...

* * *

– Я збіраюся зрабіць табе прапанову, ад якой ты не зможаш адмовіцца.

– Ну давай.

– Хадзем паямо!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Пры загадкавых варунках у двары Тэрэзіна пад Варшавай застрэлілі ўласніка гэтага двара князя Друцкага-Любецкага.** Следства звярнула ўвагу на прыяцеля нябожчыка барона Біспінга, каторага арыштавалі і, зрабіўшы ў кватэры вобыск, знайшлі важныя дакументы.

**«НН». №16—17. 1913.**

**У кнігарнях з'явілася кніга «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя».** Гістарычнага выдання такой якасці ў краіне яшчэ не было. Узяў у рукі — маеш рэч. Выданне ўпрыгожваюць летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, рэдкія фотаздымкі. На 320 старонках змешчана каля 2000 ілюстрацый. Кнігу стварылі пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч.

**«НН». №15. 2003.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 16.04.2013.
Замова №1596.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12